*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

**Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)** **№ 52 (212)** **28 снежня 1994 г.** **Кошт — 40 рублёў**

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **26 СТУДЗЕНЯ 1995 ГОДА СПАЎНЯЕЦЦА 5 ГАДОЎ З ДНЯ ПРЫНЯЦЦЯ ЗАКОНА АБ МОВАХ.**

❍ ***У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ ЎКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ,*** *у якім 17 снежня абвешчаны Днём беларускага кіно і які будзе адзначацца штогод як прафесійнае свята.*

❍ **МІНІСТР АДУКАЦЫІ І НАВУКІ ПРАФЕСАР ВАСІЛЬ СТРАЖАЎ ДАЎ ІНТЭРВ'Ю КАРЭСПАНДЭНТУ «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ».** Гаворачы пра тое, што ў будучым «у нас будзе існаваць толькі адзін тып школы — беларускамоўны», Васіль Іванавіч на пытанне «А ў які клас вы асабіста аддалі б свайго ўнука?» адказаў: «Калі праз два гады мой унук пойдзе ў школу, я буду раіць бацькам аддаць яго ў беларускамоўны клас. Спадзяюся, што так і будзе зроблена». І далей на рэпліку карэспандэнта «Чым прадыктавана такая пазіцыя: таму што вы працуеце міністрам ці перакана081ы ў тым, што так будзе лепей для ўнука?» ён сказаў: «І таму, што перакананы, і таму, што міністр. Бо пасада міністра дае магчымасць бачыць пэўныя перспектывы адукацыі на Беларусі». Добра было б, каб так думаў не толькі міністр адукацыі і навукі.

❍ ***ПРАДСТАЎНІКІ ФОНДУ МІХАІЛА ГАРБАЧОВА ПРАВЯЛІ Ў ГАРОДНІ ТЭЛЕФОННАЕ АПЫТАННЕ НА ТЭМУ «НАСТАЛЬГІІ ПА СССР».*** *На пытанне «Грамадзянамі якой краіны вы хацелі б быць?» 46,7 працэнта апытаных адказалі, што хочуць быць грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Сумуюць па СССР — 37,8 працэнта. Грамадзянамі аб'яднанай польска-беларускай дзяржавы сталі б 6,5 працэнта. Сярод апытаных было 32,3 працэнта расіян, 49,7 працэнта беларусаў, 7 працэнтаў украінцаў і 9,5 працэнта палякаў. Так што спадзявацца былому прэзідэнту неіснуючай дзяржавы на беларусаў, якія б яго вярнулі на савецкі трон, не даводзіцца.*

❍ **У МЕНСКУ Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА ПРАЙШЛА КАНФЕРЭНЦЫЯ** Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій. Быў выбраны віцэ-прэзідэнт асацыяцыі — Пётр Ляшчоў.

❍ ***19 СНЕЖНЯ, СА ЗГОДЫ ПРЭС-СЛУЖБЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ, У ПРЭС-ЦЭНТРЫ СЕСІІ ПАРЛАМЕНТА Ў ДОМЕ ЎРАДА АДБЫЎСЯ*** *ўстаноўчы сход Беларускай асацыяцыі замежных акрэдытаваных рэпарцёраў (БАЗАР). БАЗАР мае намер садзейнічаць абароне і рэалізацыі прафесійных і асабістых правоў замежных журналістаў у Беларусі.*

❍ **З НАГОДЫ ВЫХАДУ ТЫСЯЧНАГА НУМАРА «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ»** яе галоўны рэдактар Іосіф Сярэдзіч даваў інтэрв'ю карэспандэнтам. На пытанне «Як рэагуюць вашы чытачы на двухмоўнасць «Народнай газеты»?» ён адказаў: «Мяркую, што пройдзе пэўны час — і наша газета будзе выходзіць толькі на беларускай мове. Мы ўсе павінны ісці да Беларусі». Віншуем супрацоўнікаў «Народнай газеты» з выхадам тысячнага нумара і спадзяёмся, што час, калі іх газета будзе выходзіць толькі на беларускай мове, не за гарой.

# Шаноўнае спадарства!

## *З Калядамі! З Новым годам!*

*РЭХА*

## *Ці стане Беларусь усяго толькі расійскім «калідорам»?*

Заканчваецца год і ў кожнага ад яго свае ўражанні. А калі выбраць адно, найбольш моцнае? У большасці, магчыма, гэта будзе адчуванне — зноў ашукалі. Абяцалі да канца 1994 года стабілізаваць вытворчасць, прыпыніць абясцэньванне грошай — інфляцыю, пакараць прыхватызатараў, зацугляць злачыннасць. За гэта большасць галасавала на прэзідэнцкіх выбарах, а не за «воссоединение». А атрымалі? Атрымалі суцэльнае павелічэнне цэн і шчырае прызнанне: праграма Рыгоравіча — гэта, аказваецца, амаль тое ж, што і Францавіча. А галоўнае — зноў няпэўнасць у заўтрашнім дні. Народу, як і раней, унушаюць: «Дай Бог хаця б у цяпле перазімаваць». Вядома ж — дай. А далей? Дай пасеяць? Што яшчэ надзённае? Дай, каб не было вайны? Апошняе пажаданне самае, канечне, ідэалагічна-псіхалагічна распрацаванае. З хрушчоўска-брэжнеўскіх часоў, калі камуністычная імперыя ўжо ва ўсю трашчала па швах і гніла на корані. Тады кампартыйныя разумнікі распрацавалі метаду, як праліццём «чужой» вялікай крыві ўратаваць уласны рэжым панавання. Улезлі ў Афганістан. Не ўцяміўшы, што сваімі рукамі канчаткова рушаць СССР, КПСС і ўвогуле ўсю «сусветную сацыялістычную сістэму». Але мала таго — цягнуць бядувайну ва ўласны двор.

Дык вось адным ці не з мацнейшых уражанняў канца года для свядомай часткі насельніцтва сталі падзеі ў Чачні. А яшчэ дакладней — вечар 29 лістапада, калі па тэлеканалу «Астанкіна» (нарэшце і ён саслужыў сапраўды інтэрнацыянальную службу!) паказалі разгубленых і няшчасных бацькоў расійскіх афіцэраў, якія раптам апынуліся ў чачэнскім палоне (афіцыйная расійская прапаганда адразу залямантавала: у заложніках! Во як). Яны штурмавалі Грозны — сталіцу Рэспублікі Ічкерыя (Чачні), бамбілі мірнае насельніцтва, у тым ліку «русскоязычных». А калі трапілі ў палон, ад іх адмовілася вайсковае камандаванне. Мала таго: месца, дзе палонных трымалі, пачалі бамбіць расійскія штурмавікі. Сюжэт гэты выпадкова ці не супаў з тым, што паказала наша родненькая «Тэлепанарама» на гадзіну пазней — у 21.00.

Уразіла ж нават не тое, што група гарластых «русскоязычных» цётак з адпаведнымі плакатамі патрабавала яшчэ больш расійскамоўных школ. Хоць здавалася б: колькі ж яшчэ, калі і зараз вышэйшую адукацыю на дзяржаўнай(!) мове можна атрымаць толькі на нешматлікіх факультэтах беларускай мовы і літаратуры! Уразіў наіўны тварык сыценькай русявай дзяўчынкі, якая сюсюкаючы шчабятала ў аб'ектыў тэлекамеры: «А я белорюсочка и хочю изючать русский язык...» І пасля паўзы: «и белорусский». Нехта з вопытных арганізатараў падобных інтэракцый няйначай падказаў. Бедная дзяўчынка! Відаць, тваё бацькі ці не шкадуюць цябе, ці не разумеюць, як будзе табе сорамна, калі падрасцеш і раптам успомніш ці нават убачыш цяперашнюю сябе, калі відэасюжэт захаваецца ў архіве!

Два такія тэлесюжэты — «астанкінскі» і «наш» у адзін вечар, мабыць, і выпадковае здарэнне. У той жа час быццам Бог вырашыў нас у каторы раз перасцерагчы: глядзіце, беларусы, параўноўвайце, думайце. Сапраўды, ёсць пра што думаць: вось як гаспадарыць «вялікі брат» у Чачні, якую лічыць чамусьці «сваёй» тэрыторыяй, нягледзячы на «дараваны» «чаркесам» статус аўтаномнай рэспублікі. А вось так — амаль анекдатычным дзіцячым шчэбетам гэты працэс можа пачацца ў нас. А яшчэ — падпішуць пагадненне, у якім агульнанацыянальная маёмасць беларусаў апынецца ў руках расійскіх капіталістаў. З нафтаправодамі аддадуць зямлю на 99 гадкоў і да яе ўжо будзе не падступіцца тутэйшым, няхай нават іхнія сенажаці пазалівае нафтай, як у Комі.Словам, нам арганізуюць «Панамскі канал», які ачэпяць расійскім войскам для аховы. Беларусь у такім разе акажацца падзеленай. А наш Прэзідэнт будзе зноў і зноў патрабаваць ад вучоных акадэміі, каб тыя барджэй працавалі над праграмай духоўнага аб'яднання народа. Але каб у той праграме нават паху не было «нацыяналізму». Але ж іншае, альтэрнатыўнае — гэта паспрабаваць аб'яднаць насельніцтва пад лозунгам звышінтэрнацыяналістаў — «Хутчэй станем расійскім калідорам!»

**Эрнэст ЯЛУГІН.**

1. КАМУ СЁННЯ ПАТРЭБНЫ «ТАВАРЫШ»? Стар. 2.
2. У БУДУЧЫМ ПАВІННА БЫЦЬ ТОЛЬКІ АДНА ШКОЛА — БЕЛАРУСКАЯ. Стар. 2.

*Жыццё Таварыства*

## Толькі праз нацыянальнае адраджэнне наша Бацькаўшчына можа разлічваць на годнае месца ў свеце

***(Усім арганізацыям Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны)***

У газеце «Наша слова» (№№ 49 і 51) былі надрукаваны справаздача з пасяджэння Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф.Скарыны, пастановы і Зварот да грамадзян Беларусі. Акрамя названых дакументаў, Рада прыняла рашэнне аб правядзенні IV з'езда ТБМ. Прыкладная дата правядзення з'езда — красавік-травень 1995 года — пасля выбараў у Вярхоўны Савет.

Звяртаемся да ўсіх арганізацый Таварыства, да сяброў ТБМ, да ўсіх, каму дарага беларуская мова, нацыянальнае Адраджэнне, актыўна далучыцца да нашага агульнага клопату — супрацьстаяць антыбеларускім сілам, якія маюць за мэту спыніць працэс беларускага нацыянальнага адраджэння. Дзеля гэтага заклікаем усімі сродкамі даводзіць да грамадзян незалежнай Беларусі згубнасць гэтай змрочнай антыбеларускай плыні, умацоўваць у нашых суайчыннікаў перакананне, што толькі праз нацыянальнае адраджэнне наша Бацькаўшчына можа разлічваць на годнае месца ў свеце. Грунтуючыся на Канстытуцыі, на дзеючым заканадаўстве, дабівайцеся выканання Закона аб мовах і другіх законаў, якія прыняты Вярхоўным Саветам у мэтах ажыццяўлення ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння.

Мы лічым неабходным і мэтазгодным правесці шэраг арганізацыйных мерапрыемстваў па ўдасканаленні дзейнасці арганізацый і першасных суполак ТБМ, па далучэнні да нашай справы ўсіх свядомых грамадзян, распрацаваць праграму дзейнасці ў сучасных умовах.

У студзені-сакавіку 1995 года неабходна правесці справаздачна-выбарчыя канферэнцыі рэгіянальных (абласных), гарадскіх і раённых арганізацый ТБМ, на якіх падвесці вынікі работы па выкананні рашэнняў III з'езда ТБМ, статутных абавязкаў, распрацаваць праграму дзейнасці ў сучасных умовах, выбраць дэлегатаў на IV з'езд ТБМ. Рэкамендацыі аб колькасці дэлегатаў ад рэгіянальных, гарадскіх, раённых арганізацый і другія матэрыялы, якія датычаць падрыхтоўкі да з'езда, будуць дасланы дадаткова. Пратаколы і адпаведныя дадзеныя з кароткай інфармацыяй аб праведзенай рабоце за справаздачны перыяд, а таксама з прапановамі па ўдасканаленні дзейнасці ТБМ і, у прыватнасці, змяненні і дапаўненні ў Статут ТБМ просім даслаць у Сакратарыят ТБМ не пазней 1 красавіка 1995 г.

Пажадана, каб падрыхтоўка да з'езда была выкарыстана для пашырэння сеткі першасных суполак, павелічэння колькасці сяброў ТБМ.

Карыстаючыся нагодай, выказваем шчырую падзяку ўсім актывістам ТБМ за падтрымку і актыўны ўдзел у высакароднай справе адраджэння нашай роднай мовы. Дзякуем таксама тым арганізацыям і прыватным асобам, якія падтрымлівалі Таварыства матэрыяльна. Тым, хто пажадае гэта зрабіць у далейшым, паведамляем наш разліковы рахунак:

700510 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г.Менска, код 764.

Сардэчна віншуем усіх прыхільнікаў роднай мовы з каляднымі святамі і Новым годам.

Добрага ўсім здароўя, поспехаў ва ўсіх добрых справах, асабістага шчасця.

**Сакратарыят ТБМ імя Ф.Скарыны.**

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ НЯПЭЎНАСЦЬ — ПАГРОЗА ЗДАРОЎЮ НАРОДА. Стар. 3.

## З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

**Савет Міністраў Беларускай ССР**

**ПАСТАНОВА**
ад 19 лютага 1991 г. № 56
г.Менск

### *Пытанні Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны*

У мэтах пашырэння дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, якое садзейнічае ўсебаковаму развіццю нацыянальнай мовы і культуры, Савет Міністраў Беларускай ССР **пастанаўляе**:

1. Выканкамам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, міністэрствам і ведамствам БССР аказваць Таварыству беларускай мовы імя Ф.Скарыны дапамогу ў стварэнні яго арганізацый у гарадах, раёнах, на прадпрыемствах, ва ўстановах, у навучальных установах, а таксама садзейнічаць у вырашэнні задач, ускладзеных на Таварыства.

2. Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны мае права: ствараць ва ўстаноўленым парадку прадпрыемствы і арганізацыі для ажыццяўлення вытворчай і фінансава-эканамічнай дзейнасці ў адпаведнасці з мэтамі і задачамі, вызначанымі яго Статутам;

выпускаць сувенірную прадукцыю і вырабы культурна-побытавага прызначэння, што адпавядаюць яго профілю.

3. Дзяржэканамплану БССР і Дзяржзабеспячэнню БССР прадугледжваць выдзяленне Таварыству па заяўках кіраўніцтва лімітаў на мэблю, аргтэхніку, абсталяванне і іншых матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў, неабходных для яго нармальнага функцыяніравання.

4. Дзяржаўнаму камітэту БССР па друку ажыццяўляць па дамоўленасці паводле заказаў Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны выпуск неабходнай друкаванай прадукцыі.

5. Выканкамам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў выдзяляць Таварыству беларускай мовы імя Ф.Скарыны памяшканні для размяшчэння створаных ім арганізацый.

6. Міністэрству сувязі і інфарматыкі БССР забяспечваць ва ўстаноўленым парадку сувяззю памяшканні Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны і падначаленых яму арганізацый.

7. Дзяржаўнаму камітэту БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні, рэдакцыям рэспубліканскіх газет і часопісаў прапагандаваць дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, якая садзейнічае выкарыстанню беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця рэспублікі, зберажэнню і развіццю нацыянальнай культуры і народных традыцый.

(Пастанова) разаслана гарвыканкамам і райвыканкамам.

**Ад рэдакцыі.** *Звяртаем увагу актывістаў ТБМ імя Ф.Скарыны, што гэтая Пастанова дзейнічае па сённяшні дзень. На месцах трэба дабівацца яе няўхільнага і паслядоўнага выканання.*

## ДАТЫ І ПАДЗЕІ Ў СТУДЗЕНІ 1995 ГОДА

❑ **1 студзеня.** Спаўняецца 50 гадоў з дня нараджэння В.М.Іпатавай, беларускай пісьменніцы, галоўнага рэдактара газеты «Культура».

❑ **4 студзеня.** Сёлета спаўняецца 525 гадоў з дня нараджэння Міколы Гусоўскага (каля 1470—1533), беларускага паэта-гуманіста эпохі Адраджэння.

❑ **5 студзеня.** У 1390 годзе Брэст атрымаў магдэбургскае права.

❑ **14 студзеня.** 75 гадоў з дня нараджэння (1920) М.Я.Аўрамчыка, беларускага паэта.

❑ **18 студзеня.** Каля 1530 года нарадзіўся В.М.Цяпінскі, беларускі гуманіст-асветнік, дзеяч рэфармацыйнага руху. Памёр у 1603 г.

❑ **28 студзеня.** Сёлета спаўняецца 115 гадоў з дня нараджэння М.Краўцова (1880—1939), беларускага паэта, удзельніка рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі пачатку стагоддзя. Аўтара ваяцкага марша «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»

❑ **30 студзеня.** 70 гадоў назад (1925) быў заснаваны Бярэзінскі дзяржаўны запаведнік.

❑ **31 студзеня.** Каля 1730 года нарадзіўся Агінскі Міхал Казімір, магнат, гетман Вялікага Княства Літоўскага. Памёр у 1800 годзе.

## РЭХА

# Каму сёння патрэбны «таварыш»?

*Які лёс слова «таварыш» сёння? Згаданае слова мнагазначнае, адно з яго значэнняў — партыйна-савецкае — зараз адмерла. Гэта заканамерны гістарычны працэс. Яно адышло ў пасіўны слоўнікавы запас, дакладней, зрабілася архаізмам, бо знікла тая эпоха, якая яго спарадзіла.*

Салігорскі ветэран У.Новік («Новая народная газета» № 55, 18 лістапада г.г., артыкул «Не цурайцеся слова «таварыш») дапусціў блытаніну. Бо нельга ж усур'ёз разглядаць у якасці яго аргументаў спасылкі на Пушкіна і Гогаля, якія ўжывалі слова «таварыш» у сваіх творах. Абсурднасць такіх доказаў Новіка выяўляецца таксама ў тым, што пушкінскі і гогалеўскі «таварыш» не раўня таварышу Леніну, Берыю і ўсім да іх падобных. Рускім класікам мінулага стагоддзя не магло нават прысніцца становішча, у якім апынуліся народы былой Расійскай імперыі на цэлых сем дзесяцігоддзяў пасля вядомага кастрычніцкага перавароту.

У выніку тых падзей 1917 года слова «таварыш» набывае зусім новы сэнс. З'явіліся новыя «таварышы», якія былі апрануты ў чорныя скураныя курткі плюс маўзэр на баку. Але неўзабаве гэтае слова атрымала значэнне абстрактна-шаблоннае, служачы сродкам вонкавага згладжвання сацыяльнай няроўнасці, якая ўсталявалася на шостай частцы планеты. Зазначу, што слова «таварыш» не было распаўсюджана сярод простых людзей. Дайшло да наступнага: звычайны гарапашнік — рабочы ці калгаснік — у сваім звароце да начальства пісаў: таварыш дырэктар, таварыш старшыня, але ж вядомая народная мудрасць сцвярджае, што гусь свінні — не таварыш.

У адным мае рацыю ветэран У.Новік, гаворачы, у прыватнасці, што ў выніку дзеяння ў Чырвонай Арміі «ад слова «спадар» і пырскаў не засталося». Але ж народ наконт падобнага неадноўчы падкрэсліваў: «Дзе сіла ёсць, там розуму не трэба». Сапраўдная ж гісторыя недалёкага мінулага пераканаўча сведчыць, што ад Чырвонай Арміі і НКУС, цалкам падначаленых «таварышам», доўгі час не толькі пырскала, але ракой лілася беларуская кроў.

Арыгінальна, мякка кажучы, разважае Новік, тупаючы нагамі вакол слова «спадар». Ветэрану (паводле ўласнага прызнання) ад яго ні холадна, ні горача. Але ж таварыш Новік тут недагаворвае, што слова гэтае яго пячэ, бо яно чыста беларускае. А ўсё беларускае Новіку не да смаку.

Што да «таварышаў», аб якіх пісалі Пушкін і Гогаль, то іх сяброўства было змацаванае крывёй. Новік жа плача аб «таварышах»-камуністах, якія самі ўволю насмакталіся людской крыві. Сёння не трэба нам ні такога слова, ні яго носьбітаў. Час іх незваротна скончыўся!

Варта зразумець Новіку, што слова «спадар» вытворнае ад «гаспадар», якое ўтварылася ў выніку звычайнага фанетычнага спрашчэння. Словы «гаспадар» і «таварыш» увогуле супрацьпастаўляюцца ў моўным ужытку. Тое ж самае назіраецца і ў жыцці. Такіх гаспадароў, у каго ўсё ў парадку, «таварышы» выскалі пад самы корань і пад вартай эшалонамі вывозілі іх з Бацькаўшчыны на немінуемую гібель у снягі Казахстана, Поўначы і Далёкага Усходу.

Былі ў нас раней сапраўдныя гаспадары, ды сплылі. І вінаватыя ў гэтым — «таварышы». А са словам «спадар» Новік раіць пачакаць(?!). Колькі ж чакаць, таварыш Новік?

**Мікола ГРЫШАН.**

## Міністр адукацыі і навукі Васіль СТРАЖАЎ:
### У БУДУЧЫМ ПАВІННА БЫЦЬ ТОЛЬКІ АДНА ШКОЛА — БЕЛАРУСКАЯ

У інтэрв'ю карэспандэнту газеты «Звязда» (№ 253, 1994) міністр адукацыі і навукі Беларусі Васіль Стражаў сказаў пра неабходнасць стратэгіі рэфармавання сістэмы адукацыі з тым, каб яна лепш адпавядала заходнееўрапейскім стандартам і рыначнай эканоміцы. «Уступаючы ў рынак, — адзначыў міністр, — мы павінны прывучаць дзяцей да большай самастойнасці і стварыць матывацыю для таго, каб яны самі, ахвотна, стараючыся адзін перад адным, — вучыліся».

Асобна спыніўся міністр на пытанні беларусізацыі. «Мая пазіцыя тут такая, — сказаў ён, — мне здаецца, што ў будучым павінна быць толькі адна школа — беларускамоўная.

І ці правільна таксама будзе, — працягваў міністр, — калі, напрыклад, пачнуць узнікаць школы толькі з польскай, скажам, мовай навучання з 1-га па 12-ы клас? Мы сапраўды павінны ствараць такія ўмовы, каб вучань, калі ён пажадае, мог вывучаць, напрыклад, на польскай мове тую ж гісторыю, літаратуру. Прыкладна так, як сёння робяць у школах, якія называюць беларускамоўнымі на Беласточчыне. У беларускамоўным ліцэі ў Бельску-Падляскім па-беларуску вывучаюць толькі літаратуру і гісторыю. Усе астатнія прадметы на польскай — цалкам. Мне вельмі імпануе той прынцып, якім кіруюцца выкладчыкі гісторыі ў краінах Заходняй Еўропы. Выкладанне гісторыі, лічаць яны, павінна спрыяць узмацненню сяброўства паміж народамі. Той самай гісторыі, у якой хапала ўсяго».

На жаль, спадар міністр не растлумачыў, што меў на ўвазе, калі сказаў, што ў суседніх народаў (якіх?) «у пэўным сэнсе агульная гісторыя, зноў жа ў пэўным сэнсе агульная ментальнасць». У каго? У расіян і літоўцаў? У нас і латышоў? У нас і палякаў? Цалкам пагаджаючыся з пажаданнем, каб лёс у дзяцей быў агульны — шчаслівы, варта ўсё ж, каб дзеці ведалі — чые яны нашчадкі.

**Ул.АС.**

## АЛЕ!

# *Беларусь, ты маці ці мачыха?*

Сямідзесяцігадовы чырвоны генацыд супраць уласнага народа заканамерна давёў Бацькаўшчыну да мяжы духоўнага, эканамічнага, палітычнага і сацыяльнага заняпаду. Мільёны беларусаў былі фізічна знішчаны ў перыяд сталінізму, дзесяткі тысяч прайшлі праз бальшавіцкія канцлагеры, многія засталіся там назаўсёды, павялічыўшы жудасную статыстыку яшчэ не знойдзеных Курапат. Ратуючы сваё жыццё, жыцці дзяцей, сваякоў, шмат жыхароў Беларусі было вымушана бегчы са сваёй радзімы, пакутаваць, блукаючы ў пошуках спакою і бяспекі. Так ствараліся калоніі беларусаў у Канадзе, Паўднёвай Амерыцы, Аўстраліі, іншых кутках планеты.

Нядаўна ўзнікла новае геапалітычнае панцце — Рэспубліка Беларусь. Хто ж яна сёння для ўсіх тых, хто нарадзіўся і раней пражываў на гэтай зямлі — турботная і ласкавая маці ці злая, нядобразычлівая мачыха? Зразумела, заўжды былі дзве Беларусі, якіх ніколі не варта блытаць. Была Беларусь урыцкіх і мясніковых, цанаваў, пілатовічаў і г.д. Але была, ёсць і будзе зусім іншая Беларусь — Беларусь Міцкевіча (Якуба Коласа), Луцэвіча (Янкі Купалы), Прушынскага (Алеся Гаруна), тысячы мільёнаў іншых простых і мудрых беларусаў. Для іх гэта зямля, гэтыя палі, лугі, лясы назаўсёды былі і застануцца родным домам, куды б ні закінуў іх лёс.

Шмат тых, хто раней па розных прычынах быў вымушаны эміграваць, пакінуць Бацькаўшчыну, пры спрыяльных умовах марыць вярнуцца дадому. Але ж хто чакае іх тут, маці ці мачыха?

Паглядзім на жыццё аднаго з іх, хто паверыў у перабудову і пераступіў высокую мяжу, якая аддзяляе мінулае ад будучага. Я маю на ўвазе графа Аляксандра Прушынскага (ён, дарэчы, з аднаго роду з А.Гаруном). Нарадзіўся ён 4 траўня 1934 года ў вёсцы Рагозніца Мастоўскага павета Гродзеншчыны ў сям'і пісьменніка і дыпламата. Маці Марыля Мыштовіч — таксама з беларускага шляхецкага роду. У 1939 годзе туды прыйшлі бальшавікі. І адразу ж, каб напужаць астатніх, на вачах маленькага пяцігадовага Аляксандра забілі яго дзеда. Такая ўжо ў бальшавікоў звярыная, лютая метода. Забойства бязвіннага дзеда назаўсёды звязана ў графа Прушынскага з крывавым словам «бальшавік». Ратуючыся ад гэтай згубы, ад гэтага дзікунскага людажэрства, духоўнага і фізічнага генацыду, бацькі Прушынскага выехалі спачатку ў Польшчу. Але пачалася Другая сусветная вайна, якая пакаціла гэту сям'ю далей па свету. Карані, урослыя ў зямлю Беларусі, былі вырваны. Замільгалі чужыя краіны: ЗША, Галандыя, Францыя, Канада. Затым — зноў Польшча. Праўда, дзе б ні знаходзіўся граф Аляксандр Прушынскі, дзе б ён ні жыў, яму заўсёды сніліся дзяцінства — родны кут, дом, сад, лагодныя і ласкавыя дзядуля, суседскія сялянскія дзеці, з якімі Аляксандр гуляў па ваколіцах родных мясцін, спакойныя, дабрадушныя жыхары вёскі Рагозніца. Пасля такіх сноў асабліва пякла туга па Радзіме, хацелася пабываць там, дзе нарадзіўся і вырас, сустрэцца і пагутарыць з сябрамі дзяцінства.

У 1992 годзе граф Прушынскі разам з сям'ёй першы з эмігрантаў паспрабаваў вярнуцца на сваю Радзіму. Як жа сустрэла Бацькаўшчына аднаго са сваіх, падкрэслім, зусім не блудных сыноў, які нават заявіў аб сваім жаданні балаціравацца на пасаду прэзідэнта Беларусі? Былая камуністычная наменклатура, якая і зараз пры ўладзе, зрабіла ўсё, каб выставіць графа з краіны. Дык няўжо ты, Беларусь, па-ранейшаму мачыха для сваіх уласных сыноў?

**М.ВАШКЕВІЧ**

## МЕРКАВАННІ

# Не хачу, каб за межамі Айчыны мяне прымалі за француза ці англічаніна

Нядаўна скончыўся тэрмін дзеяння майго замежнага пашпарта, трэба было яго прадоўжыць. У савецкім замежным пашпарце ўсе тэксты надрукаваны па-расійску і па-французску, але маё імя і прозвішча ў маім пашпарце былі напісаны толькі па-расійску. Атрымаўшы пашпарт, я ўбачыў, што маё імя і прозвішча дапісаны і лацінскім шрыфтам, але ў французскай транскрыпцыі.

Я чытаў, што ў беларускім пашпарце, які неўзабаве павінны выдаваць, тэкст будзе напісаны на беларускай і англійскай мовах. Гэта значыць, што маё прозвішча там на гэты раз напішуць англійскай транскрыпцыяй. Наколькі мне вядома, амаль ва ўсіх мовах, якія карыстаюцца лацінскім алфавітам, уласныя імёны пішуцца так, як на мове арыгінала. Улічваючы тое, што беларуская мова мае і лацінскі алфавіт, то ўласныя імёны лагічна будзе пісаць беларускай лацінкай. Довады, што людзі, якія ведаюць англійскую (французскую) мову, не змогуць прачытаць імя, не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Хачу прывесці такі факт. Прозвішча нашага земляка Адама Міцкевіча пішацца аднолькава і па-французску, і па-англійску ў польскай транскрыпцыі Mickiewicz. Нядаўна было паведамленне, што ў Францыі быў зроблены першы вершаваны пераклад «Пана Тадэвуша». Французы мяркуюць, што Міцкевіч і яго паэма да Беларусі не маюць ніякага дачынення, і таму на прэзентацыю гэтай кнігі запрасілі пасло Польшчы і Летувы, а на вокладцы імя аўтара напісалі Mickiewicz і Mickevičius. Але і ў першым і другім выпадку прозвішча напісана не французскай транскрыпцыяй.

Я не хачу, каб за межамі Беларусі мяне прынялі за француза або англічаніна. Я хачу быць беларусам, і маё імя трэба пісаць Aliaksandar Stupień.

**Аляксандр СТУПЕНЬ.**
г.Гродна

*Канферэнцыі*

# СТУДЭНТЫ, АБ'ЯДНАЕМСЯ ДЛЯ ВЫРАТАВАННЯ БЕЛАРУСКАГА ЭТНАСУ!

23—24 лістапада ў вялікай актавай зале філалагічнага факультэта БДУ сабралася каля 300 студэнтаў з вышэйшых навучальных установаў Беларусі на сваю першую Ўсебеларускую навукова-практычную студэнцкую канферэнцыю «Роля і месца студэнцтва ў нацыянальна-культурным будаўніцтве на Беларусі», якую ладзіла Менская гарадская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны разам з Міністэрствам адукацыі і навукі, БДУ, Беларускім каардынацыйным цэнтрам навукова-даследчай работы студэнтаў.

Са словам да студэнтаў звярнуліся намеснік міністра Т.Галко, прарэктар БДУ С.Рашэтнікаў, дэкан філфака А.Лойка. На пленарным пасяджэнні былі заслуханы даклады «Роля і месца студэнцтва ў нацыянальна-культурным будаўніцтве на Беларусі» (У.Навумовіч), «Вышэйшая школа як асяродак падрыхтоўкі нацыянальных кадраў вышэйшай кваліфікацыі» (М.Савіцкі); даклады студэнтаў «Беларуская мова — аснова развіцця нацыянальнай вышэйшай школы» (Алесь Красоўскі), «Роля выкладчыка-выхавацеля ў нацыянальным адраджэнні навучэнцаў» (Зміцер Фядуцік), «Патрэбны дзяржаўны падыход» (Алена Сушко). Дакладчыкі зрабілі аналіз сучаснага стану выканання Канстытуцыі і законаў, у якіх вызначаны прававы бок аб'ектыўнай неабходнасці неадкладнай канкрэтнай работы па стварэнню як па мове, так і па духу беларускай вышэйшай школы.

Работа доўжылася ў трох секцыях: 1. Навуковы пошук студэнтаў — нацыянальна-культурнаму будаўніцтву; 2. Вучэбны працэс: праблемы нацыянальна-культурнага Адраджэння; 3. Выхаванне нацыянальнай свядомасці і патрыятызму ў студэнтаў.

З трывогай гаварылі студэнты аб тым, што ў вышэйшай школе амаль не пачаўся працэс стварэння нацыянальнай беларускай школы, зрываецца па тэрмінах выкананне Закона аб мовах і аб адукацыі ў поўным аб'ёме. Гэтаму спрые алагічная, супрацьзаконная пазіцыя дзяржаўных чыноўнікаў. На сёння вышэйшая школа вельмі слаба працуе на ўмацаванне дзяржаўнасці, незалежнасці Беларусі.

З высокай мерай адказнасці студэнты гаварылі аб сваім месцы і ролі ў нацыянальным Адраджэнні беларускага народа, пабудове беларускай дзяржаўнасці, у далучэнні праз нацыянальную культуру да здабыткаў сусветнай. Паказальна тое, што аніводзін удзельнік не выказаўся супраць беларускай ідэі і нацыянальнага адраджэння.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі рашэнне праводзіць такую канферэнцыю кожны год і надаць ёй статус Усебеларускай асамблеі студэнтаў. Быў прыняты Зварот да студэнцтва Беларусі, у якім, у прыватнасці, гаворыцца:

«Зыходзячы з ролі і месца, якое займала студэнцтва ў гісторыі дзяржаўнага будаўніцтва ўсіх народаў на працягу гісторыі чалавецтва, пасля абмеркавання фактычнага становішча ў грамадстве і студэнцкіх калектывах кожнага з нас і ўсіх разам, адзначаем глыбокую пасіўнасць студэнтаў у жыцці Бацькаўшчыны, у адраджэнні беларускай нацыі, яе мовы, гісторыі і культуры. Наша цярплівасць і талерантнасць ператварыліся ў рабскую паслухмянасць. Памятайце: чыя мова — таго і зямля! Сёння ёсць рэальная небяспека ператварыцца ў каланіяльны прыдатак Расеі і цалкам знікнуць як этнас. Будзем прыкладам у практычных справах стварэння ў Беларусі беларускамоўнага асяроддзя. Вельмі многа залежыць ад мовы выкладчыкаў у ВНУ. Патрабуйце ад вашых выкладчыкаў выкладання ўсіх прадметаў на дзяржаўнай — беларускай мове.

Мы выступаем супраць фальшывага «інтэрнацыяналізму», гістарычнай недасведчанасці і манкурцтва. У цывілізаваным свеце толькі патрыёт сваёй роднай культуры, які ведае гісторыю і культуру сваёй Бацькаўшчыны і ганарыцца імі, можа быць сапраўдным, а не фальшывым інтэрнацыяналістам.

Сёння ўсе руска-імперскія шавіністычныя сілы ўнутры Беларусі скіраваны адкрыта і скрыта супраць таго, каб у Беларусі запанавала беларуская мова ва ўсіх сферах жыцця. Наша роля ў гэтым лёсаносным працэсе вызначальная, апостальская. Аб'яднаем нашу энергію, розум, волю для выратавання беларускага этнасу. Задушаць беларускую мову — знікне унікальны этнас, знікне дзяржава. Быць абыякавым у гэтых умовах — здрада нашай гераічнай мінуўшчыне, сабе і нашым нашчадкам.

Жыве беларуская мова — аснова культуры, адукацыі!

Жыве незалежнасць, дзяржаўнасць Беларусі!»

**Мікола САВІЦКІ,**
**старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны, прафесар.**

# Падвялі вынікі года

26 лістапада гэтага года адбылася штогадовая канферэнцыя Менскай гарадской філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Сацыял-дэмакраты сталіцы падвялі вынікі сваёй работы за справаздачны перыяд, акрэслілі накірункі будучай дзейнасці, выбралі кіраўнічыя органы. Старшынёй рады Менскай гарадской філіі БСДГ абраны гісторык Міхась Чарняўскі. Удзельнікі канферэнцыі прынялі таксама заяву наступнага зместу.

Апошнім часам кансерватыўныя сілы актывізавалі наступ супраць усяго беларускага, што, па сутнасці, інспіруецца пазіцыяй і выказваннямі Прэзідэнта ў адносінах да нашай мовы, культуры, нацыянальнай сімволікі, да перспектыў беларускай дзяржаўнасці. Такое адбываецца ва ўмовах катастрафічнага пагаршэння эканамічнай сітуацыі, росту злачыннасці, рэзкага зніжэння жыццёвага ўзроўню народа. Гэты наступ вядзе да дэстабілізацыі палітычнага становішча ў краіне, стварае атмасферу канфрантацыі, адцягвае ўвагу грамадскасці, заканадаўчай і выканаўчай уладаў ад тэрміновага і эфектыўнага правядзення эканамічных рэформаў, перашкаджае выхаду краіны з крызісу. Такія дзеянні антыбеларускіх сіл аб'ектыўна накіраваны на аслабленне, а ў канчатковым выніку і ліквідацыю беларускай дзяржавы, на вяртанне Беларусі да становішча маскоўскай калоніі.

**М.Ч.**

*Аўтарытэтна*

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ НЯПЭЎНАСЦЬ — ПАГРОЗА ЗДАРОЎЮ НАРОДА

***(Гутарка з псіхатэрапеўтам С.Язерскім)***

**— Сяргей Андрэевіч, Вашу публікацыю ў газеце «Літаратура і мастацтва» аб праблемах беларускай мовы — «Маем грошы і ходзім босыя...» заўважылі многія чытачы. Па прафесіі ўрач... Тое, што Вы сказалі ў ЛіМе, — вынік Вашых назіранняў за жыццём ці нейкі тэарэтычны роздум псіхолага?**

— Я практык. Мой працоўны стаж у псіхатэрапіі складае 32 гады. Працаваць даводзіцца з розным кантынгентам людзей. Даўно звярнуў увагу на пэўную залежнасць трываласці чалавека да стрэсаў ад здольнасцей да самавызначэння свайго «я», якое вынішчалася камуністычнай уладай шмат гадоў. На практыцы гэта, часцей неасэнсаванае, «зліццё» асобы з навакольным соцыумам, што згодна са шматлікімі аўтарамі (Вейтгеймер, А.Колер, Дж.Энтрайт, Ф.Перлз і іншыя) вядзе да сацыяльна-псіхалагічнага скрыўлення. Паказальным для такіх пацыентаў з'яўляюцца меркаванні "ўсе так робяць" і таму яны адганяюць думкі: «я хачу» — «я не хачу», «у мяне свае ідэалы, свой шлях» і г.д.

Адсутнасць ці прывідная наяўнасць межаў паміж «я» і навакольлем, зліццё з ім, вядзе да няздольнасці вылучаць свае пачуцці і жаданні ад чужых.

**— І гэта можа стаць прычынай неўрозу? Але ж такое здаецца самым простым: рабі, як усе, і зберажэш нервы.**

— Не зусім так. Усё роўна ў чалавеку існуюць свае патрэбы, і ў пэўны момант яны ўступаюць у супярэчнасць з рэчаіснасцю. Так, узнікае падстава для псіхічнага напружання, раздражнёнасці, агрэсіўнасці ці, наадварот, да пасіўнасці, млявасці, абыякавасці, у выніку, дэпрэсіі. Таму ў сваёй штодзённай працы я імкнуўся выклікаць у пацыента патрэбу ў самаасэнсаванні, інтарэс да з'яў, якія робяць чалавека адметным. А гэта мажліва праз веданне гісторыі свайго роду і этнасу, нацыянальных традыцый і звычаяў, нацыянальнага мастацтва і фальклору, роднай мовы.

**— Выходзіць, Дзяды нават здольныя зберагаць наша псіхічнае здароўе? Але ж, як вядома, урачы, на жаль, практычна не карыстаюцца ў часе сваёй працы беларускай мовай, хіба толькі ў сельскіх бальніцах. Ды і то, відаць, не ўсюды. А як Вы прыйшлі да беларушчыны? Як сфарміраваўся Ваш светапогляд?**

— У апошні час з'явілася праблема паразумення рускамоўнага псіхіятра з беларускамоўным пацыентам. Калі ў 1989—90 гадах такіх пацыентаў былі адзінкі (0,02%), у 1991—1992 гадах — 1%, у 1993—1994 гадах ужо 10%. Колькасць з 1989 года ўзрасла ў 500 разоў.

З 1991 года з беларускамоўнымі пацыентамі я размаўляю на той мове, на якой яны ўспрымаюць свет, катэгорыямі, якімі яны яго аналізуюць. Гэта патрабавала пэўных намаганняў у распрацоўцы тэрміналогіі. Частковы пераход у прафесійнай працы на беларускую мову быў мэтазгодным і перспектыўным. Мае лінгвістычныя пошукі і апытанне пацыентаў паказваюць залежнасць светаадчування і мыслення ад мовы. Напрыклад, расійскае паняцце «личность» успрымаецца ў кантэксце семантычнага каранёвага слоўнікавага гнязда: «личность—лицо—личина—лицемер—нелицеприятный» і г.д. Гэта значыць, што паняцце «личность» стаіць у семантычнай сувязі з вонкавым выглядам твару чалавека і гэта прасочваецца ў расійскім менталітэце. Адпаведнае расійскаму «личность» беларускае слова «асоба» ўспрымаецца і ўжываецца ў кантэксце: «асаблівасць—адасоблены—асабісты», не такі, як іншыя, адметны, апрычны.

**— У Вас ёсць і навуковыя працы, звязаныя з гэтай тэмай?**

— Так. Фрагмент з маёй працы, дзе параўноўваюцца еўрапейскія мовы, «Мова і менталітэт», надрукаваны ў 1992 годзе. На гэтую ж тэму я выступаў на міжнароднай канферэнцыі «Самасвядомасць беларусаў».

**— Сяргей Андрэевіч, цяпер пытанне па тых моўных праблемах, якія Вы закранулі ў ЛіМаўскай публікацыі. Не сакрэт, што пераважная большасць беларусаў карыстаецца вельмі далёкай ад дасканаласці рускай мовай. Як гэта ўплывае на дзяржаўнае мысленне і творчы патэнцыял асобы?**

— Адмоўна. Карыстанне такой рускай мовай штучна абмяжоўвае дзяржаўнае мысленне і творчы патэнцыял асобы. Беларускі варыянт рускай мовы мае некалькі сотняў слоў. Акрамя таго, мала ведаць слова. Трэба ўмець ужываць яго згодна з асаблівасцямі граматычнага складу мовы. І калі чалавек з мысленнем, прыладкаваным да беларускай мовы, карыстаецца рускімі словамі, то пабудова сказаў, слоўнікавы запас, выразнасць думкі не адпавядаюць як беларускай, так і рускай мове.

**— Каб па-сапраўднаму авалодаць рускай мовай, патрэбны нейкія асобыя ўмовы?**

— Для гэтага трэба вынішчыць беларускую мову з усіх сфер ужывання, адмовіцца ад фальклору, беларускай гісторыі, сімволікі, ад звычаяў і памяці продкаў, адмовіцца нават ад этнічнай самасвядомасці. І толькі тады не будзе перашкод для сапраўднай рускай мовы.

**— А ці патрэбна гэта беларусам? Ці варта адмаўляцца ад сваіх разумовых уменняў? Ці варта мяняць сваю мову?**

— На мой погляд, калі мова не стасуецца з асаблівасцямі мыслення, з'яўляюцца думкі, падобныя да «шрубаў», забітых малатком. Мова — падмурак для нацыянальнай псіхалогіі. Адрокшыся ад мовы, адракаюцца ад своеасаблівасці мыслення. Адметнасцю беларускай мовы з'яўляюцца паточнасць, памяркоўнасць, адсутнасць рэзкасці. Вось, напрыклад: расійскае слова «мать» гучыць, як удар пугі. А беларускае «маці» вымаўляецца мякка і яго, скажам, не ўвесці ў тую ж брудную лаянку. Дарэчы, адмысловасцю мыслення на беларускай мове тлумачыцца цяжкасць дакладных перакладаў з яе. Хіба ёсць у расійскай мове адпаведнік выразу «матчына мова»? А вось адно з адрозненняў беларускай мовы ад украінскай — абмежаванае ўжыванне прыметнікаў і памяншальных слоў. Заўважылі? Украінская літаратура больш эмацыянальная і маляўнічая, а беларуская — больш эпічная, схільная да філасафічнасці. У адрозненні ад расійца беларус «нешта любіць», а «некага кахае», бо ў яго свой погляд на свет, і пачуццё дыферэнцыравана. Мова дазваляе асабліва адчуваць свет, дазваляе далучацца да этнасу, яго гісторыі і яго здабыткаў, дае магчымасці самарэалізацыі на вышэйшым узроўні, магчымасці яднацца з этнасам, упэўнена і мэтанакіравана мацаваць этнас праз уласны ўклад у навуку, культуру народа.

**— Кажуць, мова — геніяльны твор этнасу і яна з'яўляецца галоўным фактарам, які фарміруе асобу, яе асаблівасць.**

— І надае асобе адмысловы погляд на свет, надае ёй адметнае светаадчуванне. Чалавек, які нарадзіўся, ужо можа лічыць сябе індывідам. Але каб стаць сапраўднай асобай, яму патрэбна яшчэ бяздань намаганняў. Бо толькі асоба добра ўяўляе сабе, «хто я ёсць, дзе ў грамадстве маё месца, для чаго я існую». Таму фарміраванне асобы пачынаецца з пошукаў свайго месца сярод найбліжэйшага акружэння, а не трохі абстрактнага чалавецтва. Шмат людзей задавальняецца тым значэннем, той адзнакай, якія яны атрымліваюць ад сваякоў, знаёмых, супрацоўнікаў. Канешне, не ўсе людзі могуць рэалізавацца сябе на гэтым узроўні. І тады яны намагаюцца выйсці за круг асабістых і штодзённых спраў, знаходзяць ідэі, дзеля якіх ёсць сэнс дзейнічаць на карысць пэўных аб'яднанняў, партый, урада і г.д. Але партыі і ўрады прыходзяць і адыходзяць. Вечны толькі народ. І калі чалавек гэта зразумеў, у яго ўжо з'яўляюцца большыя абсягі для сэнсу жыцця. Камуністычны рэжым рабіў усё, каб чалавек адчуваў сябе шрубкай, каб ён не ведаў мовы этнасу, гісторыі, сваіх нацыянальных герояў. Камуністаў палохала асоба, а нацыянальны чалавек болей «асоба», чым «проста чалавек». Беларус не такі, як паляк, летувіс. Але своеасаблівасць, адметнасць — гэта не абмежаванасць, бо не наканоўвае цурання іншых культур.

**— Нашы рускамоўныя дзяржаўныя дзеячы імкнуцца хутчэй уз'яднацца з Расіяй. Магчыма, гэтаму спрыяе знаходжанне паміж дзвюх моў, якое садзейнічае расчляненню асобы, а таму і знікненню ініцыятывы, нежаданню браць на сябе адказнасць за сябе і краіну?**

— Карыстанне моваю іншай краіны ў самых прэстыжных галінах стасункаў з'яўляецца сродкам уціску на індывідуальнае і грамадскае жыццё. Гэта лінгвістычны, псіхалагічны, ідэалагічны ўціск, небяспечны для псіхічнага здароўя народа. Быццам негвалтоўны ўціск рускай мовы можна кваліфікаваць як псіхалагічна разбуральны, таму што ён брудзіць наш нацыянальны гонар, пачуццё нацыянальнай годнасці. Так што руская мова, якая пануе ў апараце Прэзідэнта, у пракуратуры і судзе, у бальніцах, у большасці праграм радыё і тэлебачання, не такая ўжо нейтральная рэч. Гэтак жа як і ўвогуле стварэнне атмасферы нацыянальнай няпэўнасці. Як урач я павінен папярэдзіць, што такое становішча прыводзіць да звышнапружанасці нервовай сістэмы чалавека, урэшце сур'ёзна пагражае псіхічнаму здароўю народа.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

Сувязі

# Зямля — цесная...

З амерыканкай Дагмар Т.Волкат я пазнаёміўся ў Празе падчас вучобы ў Летняй школе славяназнаўства. Даведаўся, што яна прыехала са штата Агаё. У горадзе Колумбус, сталіцы штата, выкладае англійскую мову. Бацька яе паходзіць з Маравы, і яна прыехала ў Прагу, каб узяцца за дасканалае вывучэнне чэшскай мовы.

Потым мы сустракаліся з ёю ў Ленінградзе, куды Дагмар прыехала разам са сваімі выхаванцамі пасля наведання Тбілісі і Масквы. Пісала ў лістах са Злучаных Штатаў, што вывучае творчасць Пушкіна, Еўтушэнкі, Вазнясенскага. Многа дазналася і пра лёс Беларусі, пра творчасць Купалы, Коласа, Мележа, Танка... Запыталася аднаго разу: «Няўжо Шагал — ураджэнец аднаго з гарадоў Беларусі? Гэта мой любімы мастак!»

Калі мне давялося быць у Клiўлендзе на 19-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі і Канады (1990 г.), зноў адбылася сустрэча з Дагмар у Клiўлендзе (Клiўленд і Колумбус — у адным штаце). З таго часу мы зрэдку перапісваемся, «перакідваемся» паштоўкамі, на якіх пакідаем кароценькія запісы па ... чэшску. Вось з такога незвычайнага сааўтарства і нарадзіліся радкі, якія сёння прапануюцца чытачу.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

*Дагмар Т.ВОЛКАТ, Сяргей ПАНІЗЬНІК*

## ПЛАНІДА ЛЮБАСНЫХ ПАКУТ

* * *

Жыццё! Малюся, на нязмерклае, —
ва ўсім у лёсе дагадзіла:
ты Беларуссю надзяліла,
і акрылёнаю Амерыкай.
Мне й Прага — полымем: «Збылося!».
...Узгадаваных успамінаў
тугое пражу я калоссе.

* * *

Вяртанне праўды. Быў пераварот —
пад сцяг чырвоны ўцiснулі краіну.
Чарговы чэх зямлю сваю пакінуў,
і доўга называўся «...розны зброд».
Пашчэнак злыдня ўсюды роўна клацаў.
І ў нас грамілі розных бебурнацаў[1].

* * *

На Пражскі Град гляджу парой начной.
І са шчымлівай развітальнай боллю
я разумею, што адчайны Ной
хацеў вярнуць падсушанаму полю, —
каб зноў абжыць усе мацерыкі
(ў патопе ночы не відаць рукі).

* * *

А на паштоўцы подпіс: «Дагмаг».
Побач — «сэрца»...
Няма выявы лепшай, мне здаецца.
Былі і свастыкі і молаты... Паверце:
не будзе лепшай знамкі[2] на канверце!
Самога Пазьняка прыняць прасіў бы
выяву сэрца за дзяржаўны сімвал.

* * *

«Вярнулася ў Амерыку я з Прагі.
Было мне добра там.
Лавіла згадкі:
«І дзе Панізьнік з рыфмаю да «прагі»,
да «смагі»? Вывучае спаткі?
У празе — ключ
дзяржаў, людзей, дарог...
Забудзь на хвілку пра Мартыралог...
Мо паспрыяе й нам з табою Бог?»

* * *

Ляцяць, ляцяць паштоўкі. Акіян
не зможа ўвесці, думаю, у зман, —
бо, добрыя, не патанаюць весці,
а светлы іх цяжар змагу я ўзнесці
на самы стромкі ў свеце хмарачос
(Галгофа — ні пры чым,
як ні пры чым — Хрыстос.
Бо кожны з нас узняць свой крыж гатовы,
хай крыжам будуць — любасныя словы).

* * *

«Маркотная. Чакаю на свой ліст.
Налета ў Празе буду зноў вучыцца,
ў маёй сястрыцы чэшскасцю лячыцца,
вынюхваць след, як асцярожны ліс,
на полі часу,
што н а п я р э й м ы мчыцца».

* * *

«Люблю Шагала. Ён з Расіі?»
Ён з Віцебска. І не прасілі
яго ў Парыж, Нью-Ёрк, Чыкага...
Не Бацькаўшчыны збыўся, Страха...
Ты, Дагмар, нават не паверыш:
Шагала — не той меркай мерыш.
З усіх невераготных краж
Шагал чуць-чуць (больш, чым «чуць-чуць»!),
і н а ш!

* * *

«Гляджу: з маёй веранды выйшла сонца, —
пашыбавала, хітрае, на Захад.
Пакіне хутка і мой штат Агаё,
а потым над Чыкага, над Аляскай,
над Калымою чорнаю гулагаўскай
пракоціцца...
...Вам зоркі над Крамлём больш не пякуцца?
Sjarhěj, я веру: твой нарад чакае,
што ясны залацісты дзень Максіма
з залётных хмараў сыдзе... А пакуль
з маёй веранды пасылаю ўслед
за сонцам нашым і сваю заранку:
— SBOHEM![3]

* * *

«З будзёнасці ствараю zazrak-цуд.
Хай зверхным словам будзе ў ім «Srdecne»,
каб Шар Зямны надзею адвечнай
жыў там, дзе я
і тут, дзе ты —
не свечнай,
а быў планідай любасных пакут».

**Прага — Нью-Йорк — Клiўленд — Чыкага — Менск.
1988—1993.**

[1] Бебурнацы (беларускія буржуазныя нацыяналісты) — мянушка для эмігрантаў, прыдуманая ў Менску.
[2] Знамка (чэшск.) — марка.
[3] Sbohem! (чэшск.) — Бывай!

Беларускае замежжа

# «Czasopis» у лістападзе

Як заўсёды, нумар адкрывае падборка выцінак з перыядычных выданняў Польшчы і Беларусі, у якіх прадстаўлены погляды розных асоб і арганізацый на жыццё і становішча беларусаў Польшчы. Гэтым разам «Czasopis» знаёміць сваіх чытачоў з меркаваннямі былога канцлера Германіі Гэльмута Шміта, беларускага навукоўца Алега Лойкі, выданняў «Украінець Пудляша», «Газэта Вспулчэсна», «Впрост», «Ніва», «Не», «Вядомосьці культуральнэ». «У Беластоку пражывае амаль уся інтэлігенцыя — выхадцы з беларускіх вёсак. Іх дзеці якраз цяпер у школьным узросце. Паланізацыя адбываецца галоўным чынам праз школу. Як жа будзе сумна праз некалькі гадоў, калі самі выгадуем беларускіх манкуртаў!» — сведчыць журналістка «Нівы» Лена Глагоўская. Як бачым, праблемы ў беларусаў па абодва бакі мяжы вельмі падобныя.

Звесткі з Беластока, Бельска, Бабpоўнікаў, Гданьска, Любліна, Варшавы, Менска, Гродна, Ліды, Львова, Масквы, Нью-Йорка ды іншых гарадоў аб'яднаныя ў рубрыцы «Мінуў месяц». Яны інфармуюць чытачоў аб жыцці беларусаў у свеце і іх дачыненнях з іншымі народамі.

«Бюджэт з прыкметамі скандалу» — такую назву мае змешчаная ў нумары гутарка Юры Каліны з Артумам Смулко — сябрам камісіі Сойма ў справе этнічных і нацыянальных меншасцей. Тэмай іх размовы стала палітыка польскай дзяржавы ў дачыненні да нацыянальных меншасцей.

Змешчаны на наступных старонках рэпартаж «Новае жыццё Старыны» паведамляе аб побыце ў Польшчы дзяцей з экалагічна перагружаных рэгіёнаў Беларусі. Яшчэ два рэпартажы — «...А жыць неяк трэба» і «Скарбы Замкавай гары» — паведамляюць: першы — аб эканамічным заняпадзе сельскагаспадарчых раёнаў усходняй Беласточчыны, другі — аб археалагічных пошуках і знаходках на Замкавай гары, блізу Гарадка.

У раздзеле «Літаратурныя сувязі» надрукаваны чарговы ўрывак з кнігі Тэрэзы Занеўскай «А душа — на Усходзе» — інтэрв'ю з празаікам, паэтам, публіцыстам, былым галоўным рэдактарам газеты «Ніва» Юрыем Валкавыцкім.

Рубрыка «Гісторыя» знаёміць чытачоў з працай а.Грыгорыя Сосны і Даратэуша Фіоніка «Царква ў падзеях Бельска». Урывак, надрукаваны ў лістападаўскім нумары, разглядае праваслаўнае жыццё Бельска ў міжваенным часе.

Апошні буйны матэрыял нумара — «Драўляныя цэрквы і касцёлы Беларусі» — напісаны на падставе кнігі А.Сергачова «Белорусское народное зодчество» і прысвечаны сакральнай архітэктуры.

На наступных старонках пад загалоўкам «Адкрыццё Польшчы» змешчана рэцэнзія на кнігу А.Ранкоўскага «Экзатычная Польшча» — выданне, прысвечанае этнічным пытанням паўночна-ўсходняй Польшчы.

Нумар замыкае падборка чытацкіх лістоў ды «Хроніка мясцовасці» — гісторыя вёскі Семяцічы, вядомай з 1431 года, а з 1542 года маючай магдэбургскае права.

У.П.

У СУСЕДЗЯЎ

# «Я — польскі патрыёт Беларусі»



Гэтыя словы належаць перакладчыку беларускай літаратуры на польскую мову Чэславу Сэнюху, які нарадзіўся ў мястэчку Любча на Гродзеншчыне. На яго творчым рахунку — пераклады твораў Янкі Купалы, Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Максіма Танка, Васіля Зуёнка, Уладзіміра Арлова. Зараз пан Сэнюх працуе над перакладам выдатнай паэмы Якуба Коласа «Новая зямля».

**На здымках:** 1. Чэслаў СЭНЮХ.
2. Першыя раздзелы «Новай зямлі» па-польску.
**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, Белінфарм.**



Jakub Kołas

NOWA ZIEMIA

I

GAJÓWKA

Kraju rodzinny sercu miły!
Zapomnieć ciebie nie mam siły!..
Nie raz, strudzony długą drogą
I wiosną życia mą ubogą
Do ciebie w myślach ulatuję
I spokój ducha odnajduję.
O jakże chciałbym móc od nowa
Drogami życia powędrować,
Na szlak przebyty się obejrzeć,
Kamienie zebrać, zepchnąć kłody
Na których zdarłem siły młode,
I jeszcze raz swą wiosnę przeżyć

O wiosno moja... i nie moja!
Już tobą tęsknot nie ukoję!
Nie przyszłaś, kiedy tak wołałem
Nie wrócisz... Już cię pochował
Nie wrócisz, jak nie wraca fala,
... się oddala.

2

Zakątku mój umiłowany,
Strumyka wstążką przepasany,
Gdzie sosnę świerk w objęciach
Ponad lustrzaną czystą wodą
I stoi z nią jak z panną młodą
Lub jak z kochanką, gdy nastani
Godzina smutna pożegnania.
I widzę las w pobliżu chaty,
Wesołych kiedyś pełen śpiewów
Powracających z pola dziewuch
Aż echo szło na bór brodaty.
To echo wzgórki dookolne
Od ściany boru przejmowały
I własnym rytmem wzbogacały
Radosne dźwięki pieśni wolny
Wiekowe świerki, dęby, sosny
Pośród tych dźwięcznych ech
W milczeniu stały i zadumie
I w cichuteńkim koron szumie
Wieczorny pacierz swój szep
I ku niebiosom świętym stały

Koło gajówki i zagrody
Podkową ciągnął się dorodn
Starodrzew gęsty i cienisty.
Tu czub osiki krąglolistnej
Z sosnami splatał się, z dęb
A świerki piętrząc się krzy
W wysokie niebo zaglądał

### І нас баяцца

Вынікі апытання, праведзенага сярод 450 выпадкова абраных прафесійных вайскоўцаў Польшчы Вайсковым інстытутам сацыялагічных даследаванняў краіны, паказалі: 33 працэнты з іх лічаць Беларусь за істотны чыннік пагрозы Польшчы. Сярод краін, якія, на погляд апытаных, ствараюць для Польшчы найбольшую небяспеку, на першым месцы знаходзіцца Украіна (83 працэнты). Далей ідуць Германія (76 працэнтаў) і Расія (56 працэнтаў). За Беларуссю апынуліся Літва (24 працэнты), Чэхія і Славакія (12 працэнтаў), ЗША (10 працэнтаў).

### Не забыліся пра суседзяў

Эканамічным камітэтам Рады Міністраў Польшчы распрацаваны праект урадавай праграмы развіцця гаспадарчага супрацоўніцтва з усходнімі дзяржавамі, якія датычыць 15 дзяржаў — былых рэспублік СССР. Прыярытэт праграма надае супрацоўніцтву з Беларуссю, Эстоніяй, Казахстанам, Латвіяй, Літвой, Расіяй, Туркменіяй, Узбекістанам і Украінай.

### У Варшаўскай «Галерэі Фоксаль»

Адбылося адкрыццё выставы польскага мастака беларускага паходжання Леона Тарасевіча. Замест традыцыйных карцін Тарасевіч прапанаваў наведвальнікам да агляду ўласнаручна расфарбаваныя сцены галерэі, якія стварылі адзін вялікі вобраз. Выстава атрымала значны розгалас у варшаўскім мастацкім свеце, у друку і на тэлевізіі.

(**«Czasopis», № 11, 1994 г.**).

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

1. **ПАЧА́ЦЬ** *што* (з назоўнікамі, якія абазначаюць дзеянне, працэс і пад., паказвае пачатковы момант гэтага дзеяння) *Карніцкі стаяў перад Шынкевічам не проста, а крыху выставіўшы правае плячо наперад, нібы падрыхтаваны да адпору, калі прыезджы пачне атаку* (Паслядовіч). *Калі ён [муж] выпіў кампот, жанчына наліла яшчэ шклянку і толькі тады пачала размову: — Да Наташы Віктар хоча прыйсці на Новы год* (Навуменка). *Ён [крумкач] прапяе, ізноў пачне той спеў, Закінуў галаву, заплюшчыў вочы* (Дубоўка), **УСЧА́ЦЬ** *што* і *чаго:* размоўнае *Ні ў гэты вечар, ні ў наступныя ўсчаць бойкі Мірон не адважыўся...* (Сачанка). *Хлапец затрымліваўся, наравіў усчаць доўгую гаворку* (Кулакоўскі). *[Язэп:] «Каб я згадзіўся з Шугаем, Гаравы не ўсчаў бы гэтай справы»* (Асіпенка), **ЗАЧА́ЦЬ** *што* і *чаго*; разм. *[Косця:] — У бязглуздую гісторыю трапіў. Прысталі на рынку п'яныя, зачалі патасоўку. Мяне павезлі ў міліцыю, пратрымалі там, ледзь пятнаццаць сутак не ўляпілі* (Пінчук). *Сядзіць Абрыц на калодзе І грэе ногі, люльку курыць, Зачаў гаворку, балагурыць* (Колас). *Дзед Нічыпар даўно пазнаў яго [Паўла], і яму стала няёмка, што ён не зачаў гаворкі са старым яшчэ там, у вагоне* (Васілёнак), **РАСПАЧА́ЦЬ** *што* і *чаго* *Усе пяць салдат аддзялення Сладкова распачалі аўтаматную страляніну па амбразуры* (Сіняўскі). *Вядома, і я быў вельмі рады, калі ён [дзед Мацей] аднаго разу распачаў са мной гаворку пра язёў* (Ляўданскі). *Ёй [Любе] хочацца, каб Сяргей прыйшоў зараз, у гэты момант. Яна баіцца, што пазней ужо не адважыцца, не знойдзе сілы распачаць з ім гэтай гаворкі* (Стадольнік), **РАСЧА́ЦЬ** *што* і *чаго*; разм. *Расчаць сварку. Міхась сумеўся: было нязручна вось так адразу расчынаць гаворку пра хром, падэшвы, усцілкі* (Асіпенка). *[Сеня:] — Ну, сабраліся мы сяк-так, да Сцёпкавых пачэпалі. А там, вядома, без выпіўкі гамонкі не расчынай* (Кандрусевіч), **ПРЫСТУПІ́ЦЬ** *да чаго* *У галаве яго [рэдактара] было многа ўсякіх ідэй. Адна такая ідэя — прыступіць да выдання панямонскай газеты* (Колас). *У іншых месцах прыступілі ўжо да ворыва, сяўбы, а ў гэтай нізіне ўсё яшчэ збіралася вада з далёкіх ваколіц* (Маўр), **ПРЫНЯ́ЦЦА** *за што* *Нам, будучым курсантам, дачасна назначылі выпускныя экзамены за вучылішча, і мы спешна прыняліся за падрыхтоўку да іх* (Марціновіч). *Зайцаў зноў прыняўся за работу, а Марыя павярнулася і пачала сачыць за яго рухамі* (Кулакоўскі), **УЗЯ́ЦЦА** *за што* *Мы ўзяліся за работу: я рыдлёўкай выкопваў бульбу, а Ганка падбірала яе* (М.Стральцоў). *Усе тры гады пасля заканчэння педагагічнага інстытута Нядзелька марыў якнебудзь узяцца за глыбокае вывучэнне гісторыі* (Гаўрылкін), **СТАЦЬ** *на што*; разм. *Назаўтра на світанні з гэтага месца [паляны] падняўся дымок: відаць было, што чалавек стаў на работу* (Лобан). — *Незакончанае трыванне:* **Пачына́ць, усчына́ць, зачына́ць, распачына́ць, расчына́ць, прыступа́ць, прыма́цца, бра́цца, станавіцца.**

2. **ПАЧА́ЦЬ** (*з інфінітывам;* ужываецца як дапаможны параўнальны дзеяслоў, абазначаючы пачатак дзеяння) *Бабка падперла рукамі шчокі і пачала смяяцца* (Колас). *А неўзабаве на бераг прыйшлі лесарубы і пачалі сячы лес* (Шуцько), **ЗАЧА́ЦЬ** разм. *Ён узяў лічыльнікі і зачаў перакладаць па адной костцы на крайнім радзе, нібы браўся праверыць гэтую цікавую практыку* (Зарэцкі). *Абы хто зачне — пачую — Мой лёс ці чарніць ці пляміць, — Мне вось што ў хвіліну тую Прыходзіць заўжды на памяць* (Гілевіч), **РАСПАЧА́ЦЬ** *Ён [Андрэй] распачаў буяніць, калі жонцы не ўдалося перадаць яму нелегальшчыну* (Машара). *Не мог жа ён [Панасюк] сказаць, што распачаў будаваць сабе хату, і таму паехаць на новую работу не можа* (Навуменка), **РАСЧА́ЦЬ** разм. *Сустракаў [Сайка] землякоў, казалі, што Ева расчала рубіць вясной вялікі дом, восем на дзесяць, каб улажыць усе тыя лішнія грошы, якія яна атрымала сёлета за лён* (Я.Ермаловіч), **ПРЫНЯ́ЦЦА** *Зося, не ждучы, покуль бацька накроіць хлеба, дастала сама толькі што пачаты бохан, адламала акраец і ўсмак прынялася есці* (Гартны). *Гэтакай жа ўзбуджанай цётка была і потым на двары, калі выйшла з дома і прынялася аглядаць усё іншае ў нашай гаспадарцы* (М.Ткачоў), **УЗЯ́ЦЦА** *Пазней, ужо абедзенным амаль што часам, жонка ўзялася ў хаце прыбіраць* (Кавалёў). *[Юлька] дастала з Ягоравага рукзака кавалак сала, цыбуліну, сырыя яйкі, нарэзала сала на скавараду, узялася лушчыць цыбуліну, ды Ягор выхапіў з яе рук: — Дай-ка я паплачу* (Карамазаў). *Святлана ўзялася рассцілаць ложкі* (Шахавец), **СТАЦЬ** *Міколка стаў наразаць хлеб на стол* (Лынькоў). *Тут жа ля возера [Васіль] уткнуў кассё ў мяккую зямлю, трымаючыся моцна рукой за тупы край касы, стаў мянташыць* (Мележ). — *Незак.:* **Пачына́ць, зачына́ць, распачына́ць, расчына́ць, прыма́цца, бра́цца.**

**ПАЧА́ТАК** (першы момант у ходзе, развіцці і пад. чаго-н.) *Успаміны ажываюць яркімі, бліскучымі малюнкамі. Дзе іх пачатак, дзе канец?* (Бядуля). *Дзям'ян лічыў, што пачатак зроблены ўдала, і калі Курловіч гэта прыме моўчкі, то ён ведае, што тады яму рабіць далей* (Дуброўскі), **ПАЧЫ́Н** разм. *[Грабок:] — Глянь, колькі! Падахвоцілі і мяне на пачын за рыдлёўку ўзяцца* (Краўчанка). *Каля касы, як сталы, Грошы двойчы злічыў і падумаў: «Нямала, Хоць і першы пачын!»* (Матэвушаў). *На першы пачын далі па шэсць пудоў на душу, а бульба, а ячмень на крупы...* (Баранавых), **ЗАЧЫ́Н** разм. *Язэп выцер пот. Зачын быў зроблены. Цяпер трэба было расставіць жанчын па дзялянцы* (Асіпенка). *Пэўна, неабходна для зачыну, Каб над хлапчуковай галавой Прашумеў вясёлы май шпачыны Чыстаю вясковай сінявой* (Бураўкін). *Заплакалі шыбы: Іх плямяць Залётныя каплі дажджын. Зайграла, турбуючы памяць, Вясна навальнічны зачын* (Калачынскі).

Леанід БУРАК,
заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі,
доктар філалагічных навук, прафесар

УДАКЛАДНІМ

# Знакі прыпынку ў бяззлучнікавых складаных сказах

**ж) Бяззлучнікавыя сказы з акалічнаснымі часткамі**

1. Акалічнасныя часткі, у якіх выкладаецца прычына або вынік другой часткі бяззлучнікавага сказа, звычайна аддзяляюцца пры дапамозе коскі: *Аксіння ішла павольна, спяшацца не было куды* (А.Кулакоўскі).

2. Калі прычына, выкладзеная ў акалічнаснай частцы бяззлучнікавага сказа, падкрэслена з асаблівай сілай, то гэта частка аддзяляецца ад другой часткі пры дапамозе двукроп'я: *Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому: кліча яго рэчка, цягнуць санкі з дому* (Якуб Колас).

3. Калі вынік, аб якім гаворыцца ў акалічнаснай частцы бяззлучнікавага сказа, падкрэслены з асаблівай сілай, то гэта частка аддзяляецца ад другой часткі пры дапамозе працяжніка: *Даставайце з вышак санкі — гайда сцежкі праціраць* (Якуб Колас).

Пры большай паўзе і аслабленай сувязі (асабліва калі вынік мае заключальны характар) паміж такімі часткамі ставіцца коска з працяжнікам: *Дагарэлі дровы, — полудзень гатовы* (Якуб Колас).

4. Калі ў акалічнаснай частцы раскрываецца характар або спосаб існавання таго, аб чым паведамляецца ў другой частцы бяззлучнікавага сказа, то паміж гэтымі часткамі ставіцца двукроп'е: *У народзе гавораць так: лянок не любіць лянот* (У.Краўчанка).

5. Калі ў акалічнаснай частцы паведамляецца аб меры і ступені таго, што названа ў другой частцы бяззлучнікавага сказа, то гэтыя часткі заўсёды аддзяляюцца пры дапамозе працяжніка: *Сабралі людзей — не прадыхаць* (М.Лынькоў).

6. Калі ў акалічнаснай частцы ўказваецца мэта ці прызначэнне таго, што названа ў другой частцы бяззлучнікавага сказа, то паміж гэтымі часткамі ставіцца працяжнік: *Разгарнуць хачу я крылле — я ў свет вольны палячу* (Якуб Колас).

Пры большай паўзе і аслабленай сувязі (асабліва калі лагічна адцяняецца мэта або прызначэнне) прэдыкатыўныя часткі бяззлучнікавага сказа аддзяляюцца коскай з працяжнікам: *Халімон прыжмурыў вочы, — хацелася адразу і адным поглядам абняць цэлую валоку* (П.Галавач).

7. Калі акалічнасная частка нечакана або раптоўна перарывае тое, аб чым гаворыцца ў другой частцы бяззлучнікавага сказа, то паміж гэтымі часткамі ставіцца працяжнік: *Не паспеў стары выбрацца з снегу — ранішнюю сціхоту прарваў стрэл* (Б.Мікуліч).

8. Калі акалічнасная частка супярэчыць таму, пра што гаворыцца ў другой частцы бяззлучнікавага сказа, то гэтыя часткі аддзяляюцца адна ад другой пры дапамозе працяжніка: *Хочаш не хочаш — сказаць пару слоў трэба* (Якуб Колас).

**з) Бяззлучнікавыя сказы з далучальнымі часткамі**

1. Пры звычайнай інтанацыі далучальная частка аддзяляецца ад папярэдніх частак бяззлучнікавага сказа пры дапамозе коскі: *Светлая галоўка мыслямі занята, многа ўсякіх думак у вачах Ігната* (Якуб Колас).

2. Калі далучальныя і іншыя часткі бяззлучнікавага сказа з'яўляюцца развітымі і маюць свае знакі прыпынку, то паміж імі ставіцца кропка з коскай: *Захар Рудак і Мешкяліс усё яшчэ спрачаліся; яны, відаць, ніколі не маглі вырашыць сваіх спрэчак* (П.Броўка).

3. Калі далучальная частка падкрэслена лагічна, то яна аддзяляецца ад іншых частак бяззлучнікавага сказа пры дапамозе працяжніка: *Агнявыя валаконцы ткуцца ў шоўк чырвоны — гэта хмаркі ладзяць сонцу і дзяньку кароны* (Якуб Колас).

**Заўвага.** Заўсёды ставіцца працяжнік, калі такія часткі маюць няпоўную форму: *Будынкі спрэс новыя — зіхацяць* (Я.Скрыган).

Пры больш працяглай паўзе і аслабленай сувязі (асабліва калі далучальная частка мае паясняльнае ці заключальнае адценне) ставіцца коска з працяжнікам: *Белы конь стукнуў звонкай падковай, — гарцаваць выязджае мароз* (Максім Танк).

4. Калі далучальная частка раскрывае змест другой часткі або яе асобных членаў, то гэтыя часткі бяззлучнікавага сказа аддзяляюцца пры дапамозе двукроп'я: *Ад ракі далятаў гул: ламала лёд на парогах* (А.Савіцкі).

Культура мовы

# Хто да гэтага даўмеўся?

Гаворка, якая распачата тут, не такая ўжо бяскрыўдная. Ёсць нямала людзей, якія за ўсё сваё жыццё гэтак і не акрэслілі, як жа пісаць сваё прозвішча.

Жыў калісь на Бабруйшчыне павятовы маршалак тутэйшай шляхты абшарнік Аляксандр Лапа. Ён так і пісаўся: Лапа, Аляксандр Лапа. А вось сучасным носьбітам гэтага прозвішча захацелася быць Лаппо. І атрымалася моўная пачвара. Пакутуе прозвішча, ні пад якую граматыку не трапляе, ні пад якое скланенне. Шмат якія беларускія прозвішчы, апрацаваныя на лад расійскай мовы, трацяць і родавыя прыкметы, робяцца нескланяльныя. Скажам, прозвішча Сарока. Нагадаем, што яго меў вядомы з «Паўлінкі» Якім Сарока. А вось як гэтае прозвішча пішуць па-расійску: «Татьяна Крайко и Юрий Ражев вместе с писателем Валерием Сороко вновь обращаются... к витебскому делу» («Рэспубліка», 26.X.94). Бачыце, змяніўшы канчатак, беларускае прозвішча зрабілася нескланяльнае.

...У Злучаных Штатах жыве наш зямляк доктар Вітаўт Кіпель. Ён дырэктар Інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Прозвішча яго як прозвішча. Простае, звычайнае, беларускае. А вось «Советская Белоруссия» іншай думкі. Яна згаданае прозвішча падала ў такім напісанні — Витовт Киппель (21.IX.94). Ну што на гэта можна сказаць? Вельмі дужа па-расійску? А можа нават і па-ангельску... Прозвішча нашага прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра беларускі расійскамоўны і двухмоўны друк піша з мяккім знакам: «Чигирь». Адкуль узяўся гэты мяккі знак, адзін, мабыць, Бог ведае. А можа і ён не ведае. Ва ўсякім разе граматыка ні беларускай, ні расійскай мовы гэтага не патрабуе. Што гэта якраз так, сведчыць і прыклад з «Народнай газеты». У нумары за 16 лістапада 1994 года чытаем: «Раздел ведет доктор юридических наук, профессор Василий Федорович Чигир». Бачыце, абышліся і без мяккага знака. І нічога.

У нас вельмі часта здараецца, як у таго фанвізінскага недаростка: «Дверь, которая у чулана, существительное, а та, которая на петлях — прилагательное».

І не такія ўжо бяскрыўдныя гэтыя моўныя маніпуляцыі з нашымі прозвішчамі, назвамі, імёнамі. Згадаем для прыкладу прозвішча аднаго з нашых маладых дэпутатаў. Дык вось, яно, рупна «перакладзенае» зацятымі русістамі, набывае зусім іншае гучанне і напісанне — Лебедько (параўнай з арыгіналам — Лябедзька). На сесіях Вярхоўнага Савета адны называюць дэпутата Лябедзько, іншыя — Лебядко́. Як мне думаецца, згаданае прозвішча і па-расійску павінна быць напісана і агучана як Лебедзька. Толькі так, і з захаваннем нашага дзекання, і з канцавым *а.* І я нічога новага тут не адкрываю. Такую практыку пісьма расійская мова мела (бачыў архіўныя запісы XIX ст. У іх беларускія прозвішчы захаваны з дзеканнем).

У сучасным расійскім друку таксама даволі часта сустракаюцца прозвішчы з перадачай дзекання — А.Гродзинский (акадэмік з Украіны), «Литературная газета», 7.IX.88 г.; Леонид Радзиховский (кандыдат псіхалагічных навук), «Советская культура», 7.IX.90. І назву гары Фудзіяма расійская мова перадае праз *дз.*

Нашы ж усе беларускія прозвішчы тыпу Дзейка, Дзюба, Дзіско, Дзікун у расійскай мове чамусьці трацяць усе свае беларускія прыкметы. Дзейка ператвараецца ў Дейко, Дзіско — у Диско, Дзюба — гэта ўжо Дюба, калі не Дюбо... Чаму на Беларусі такі беспарадак і ў гэтым?

Ды, пэўна, адказ адзін і той жа — у нас па-ранейшаму няма ні славы, ні дзяржавы, ні гаспадара.

...Хутка на Беларусі пачнецца выдача новых пашпартоў. Дужа хацелася б, каб і пашпартныя чыноўнікі, і самі носьбіты прозвішчаў, імёнаў найдакладней запісвалі свае прозвішчы і па-беларуску і адпаведна дакладна перадавалі па-ангельску ці на якой іншай мове, якая ўведзена ў наш новы пашпарт...

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

*Люляў двух Міцкевічаў Нёман*

# Аляксей ПЯТКЕВІЧ: паэма Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» — адбітак беларускага светаадчування

**— Спадар Аляксей, наша газета надрукавала два артыкулы пра падабенства «Пана Тадэвуша» і «Новай зямлі». Як Вы мяркуеце, ці ёсць падстава злучаць у адзіную беларускую літаратуру «сялянскія» і «шляхецкія» творы? Магчыма, польскамоўныя літаратары толькі выкарыстоўвалі беларускі фальклор дзеля стварэння арыгінальных мастацкіх твораў, а самі заставаліся людзьмі другой культуры, жылі іншым духоўным жыццём, непадобным на сялянскае?**

— У XIX стагоддзі шляхта Беларусі, ці, калі карыстацца тагачасным тэрмінам, шляхта Літвы, шляхта краёвая — літвіны — у сваім духоўным жыцці, у сваіх інтарэсах і густах праходзіла працэс павароту да каштоўнасцей, звязаных з народнай культурай, павароту да народных вераванняў, міфаў, да фальклору, побыту, акуналася ў гэтую маральна чыстую, вельмі дарагую для яе цяпер сферу жыцця. Такім чынам — усё больш усведамляючы сваю самабытнасць, самарэалізуючыся ў сваіх «літвінскіх», па сутнасці нацыянальных, якасцях. Гэтая гістарычная патрэбнасць пазнаць сябе і ацаніць па высокім рахунку сваё, звычайнае, была вынікам фармавання беларускай нацыі.

І калі прасочваць працэс духоўнага жыцця XIX стагоддзя, зрэшты, не толькі ў літаратуры, але і ў музыцы, і, можа, асабліва ў выяўленчым мастацтве, то нарастанне ўвагі да гісторыі краю, спадчыны, да каштоўнасцей народнай душы будзе відавочным. Калі ж браць літаратуру, то за Міцкевічам, які яшчэ заставаўся класічным рамантыкам (асабліва ў сваіх ранніх творах, найбольш у сваіх рамантычных паэмах), ясна бачыцца — пазней — Сыракомля, які ўжо выглядае рашуча павернутым менавіта да вясковых, народна-бытавых асноў жыцця, да тых як каштоўнасных праяў народнай культуры. Ён сам сябе, дарэчы, называў «вясковым лірнікам».

**— А іншыя пісьменнікі?**

— Іншыя таксама. Рамантычны культ роднай «Літвы» (г.зн. Беларусі), моцна выяўлены ў філаматаў, паступова змяняўся скрупулёзным засваеннем прозы мясцовага жыцця, пра што сведчаць найперш этнаграфічныя літаратурныя, краязнаўчыя публікацыі В.Каратынскага, Г.Пузыні, П.Янкоўскага, З.Трашчкоўскай, З.Кавалеўскай (славутая матэматык. — **Рэд.**), А.Плуга, А.Глінскага, Ч.Янкоўскага, В.Касцялкоўскай, Ю.Крашэўскага. Я ўжо не гавару пра іх літаратурна-мастацкую творчасць, моцна прасякнутую маральна-асветніцкімі дыдактычнымі ісцінамі, пачэрпнутымі з глыбінь жыцця працоўнага чалавека і адрасаванымі шляхецкай інтэлігенцыі.

Тое ж самае вельмі цікава рабіла Эліза Ажэшка, якая старалася рашуча паяднаць шляхецкія і сялянскія вартасці. Яна ў сваёй аповесці «Над Нёманам», — вельмі катэгарычна сцвярджаючы важную для сябе рацыянальна-пазітывісцкую ідэю, — аддала сваю любімую гераіню Юстыну за Багатыровіча, які ўвасабляў ужо моцны комплекс сялянскага і шляхецкага, беларускага і польскага, узвышанага і будзённага.

А калі ісці далей, — хаця гэта адзін і той жа час, але па сутнасці гэта рух уперад, — то Францішак Багушэвіч, будучы шляхціцам і паводле саслоўнай прыналежнасці і паводле роду, заставаўся ўжо душой абсалютна злітым з народнымі, нават простанароднымі пачаткамі жыцця, і ў выніку — застаўся ўсвядомленым ужо як паэт беларускі і паводле мовы — ва ўсіх адносінах.

**— Але той жа Адам Міцкевіч у «Дзядах», найбольш, як мне ўяўляецца, «беларускім» з яго твораў, фактычна толькі выкарыстаў беларускі фальклор дзеля сваіх эстэтычных і палітычных мэтаў. Яго Густаў, герой «Дзядоў», — наднацыянальны, хаця і дзейнічае ў беларускім асяроддзі.**

— «Дзяды» ўсё ж ранняя, выразна рамантычная рэч А.Міцкевіча. Аднак жа тут фальклорна-этнаграфічны матэрыял — не проста элемент паэтыкі. Адметна беларускі (зноў жа сялянскі) абрад «дзядоў» — выходная маральна-філасофская пазіцыя аўтара, які даводзіць, што адданасць свайму роду, вопыту продкаў, памяць пра іх мацуе чалавека і грамадства, дае яму сілу і характва. А Густаў, як усякі рамантычны персанаж, псіхалагічна не распрацаваны, таму і выглядае наднацыянальным. А.Міцкевіч у сваіх паэтычных рэмінісцэнцыях падымаўся ў раннім перыядзе творчасці на асаблівую вышыню. Пазней ён рашуча апускаецца на зямлю і стараецца нібы навобмацак кранацца яе, увесь час не адрываючыся ад яе мясцовага, традыцыйна-беларускага ладу жыцця.

У гэтым сэнсе якраз цікавая паэма «Пан Тадэвуш». Як мы знаем, пісалася яна напачатку 30-х гадоў XIX стагоддзя, калі яшчэ не прыйшоў час для рашучага збліжэння літаратуры з рэальнасцю. Але асабісты лёс Міцкевіча, яго эміграцкія нягоды, пошукі змусілі паспяшацца да Радзімы з усімі яе рэаліямі, зрабіць такі паварот вельмі рэзка. І паэма «Пан Тадэвуш» у параўнанні з раннімі творамі Міцкевіча выглядае шмат у чым новай, нават трохі нечаканай і незразумелай паводле свайго жанравага, вельмі арыгінальна выштукаванага складу, паводле стылістыкі, матэрыялу, паводле эстэтычных прыхільнасцей аўтара.

Фактура вясковага жыцця, яго канкрэтыка, яго рэчыўна-патрыярхальны свет, прырода, словам, аўтэнтычнае жыццё з асаблівым паганскім смакам, з паэтычнай шчодрасцю вымалёўваецца, перажываецца аўтарам. Ён нібы купаецца ў гэтай першароднай стыхіі тутэйшага жыцця, і, вядома, прырода з яе спрадвечнай таямнічасцю, магутнасцю і адноснай прастатою быцця добра пасуе да гэтага свету.

**— Ды гэтае «тутэйшае жыццё», здаецца, усё ж больш шляхецкае, а не сялянскае, якое — паводле ўбітага нам у галаву ўяўлення, — павінна атаясамляцца з народным.**

— Так, шляхецкае (а шляхта, пэўна, — найбольш годная частка беларускай этнічнай супольнасці на той час). І ў гэтай натуральнай шляхецкасці аўтар адкрывае мноства асаблівасцей (маральна-этычных, эстэтычных, этнаграфічна-бытавых), якія лучаць яе з сялянскім, народна-традыцыйным укладам жыцця.

Звернем увагу на некаторыя асобныя моманты «Пана Тадэвуша». Мне ўяўляецца, што ў паэме своеасаблівым маральна-эстэтычным цэнтрам з'яўляецца не столькі галоўны герой, іменем якога названа паэма, а Зося. Да яе цягнуцца ніці, так бы мовіць, ацэначныя — ацэнкі ўсяго таго, што праходзіць перад чытачом у паэме. Яна з'яўляецца тым аб'ектам, якім правяраецца каштоўнасць жыцця, правяраюцца ўсе важныя ісціны чалавечага жыцця на зямлі.

**— Але яна — шляхцянка, а не сялянка...**

— Шляхцянка-сялянка ў Міцкевіча!.. Якая яна, Зося? З самага пачатку паэмы аўтар вельмі настойліва робіць яе не столькі па-шляхецку ўзорнай, не столькі па-шляхецку элегантнай, эфектнай, а прывабнай сваёй сціплай прастатой, сваёю прыроджанай чысцінёй, далучанасцю да гэтай аўтэнтыкі вясковага жыцця. Яна — часцінка гэтай прыроды, часцінка народнай культуры, народнага ладу жыцця, які ў паэме адчуваецца вельмі добра.

У пачатку паэмы Зося ўбачана вачыма графа. І чым яна занята? Яна з дзецьмі і хатняй птушкай. За сядзібай — агародчык, засаджаны кветкамі, агароднымі культурамі. І вось тут Зося і дзеці, чародка дзетак і яна, і гэтыя расліны. Прырода, Зося, дзеці — гэта адзін паэтычны рад. Для аўтара — гэта каштоўнасці аднаго парадку. І за гэтым, калі мы бачым яе на вяселлі, калі яна выходзіць замуж, то, нягледзячы на ўгаворы — усе настойваюць на неабходнасці элегантнай парадная сукні — Зося рашуча адвяргае гэтыя патрабаванні і адзявае традыцыйны тутэйшы ўбор.

**— Магчыма, гэта толькі дзявочы капрыз?**

— Не, гэта яе натура, яе густ. І аўтар бачыць яе толькі ў народным строі: маляўнічым гарсэціку, у блузачцы светленькай, падвязанай па каўняры жычкай — гэта чыста народныя элементы, і не проста этнаграфія, — праз гэта бачыцца душа Зосі. Яшчэ калі яна робіць першы выхад у свет — першы баль. Тут цікава вось што: якімі аўтар карыстаецца паэтычнымі тропамі, каб мы зразумелі, якая яна ёсць. Зося спяшаецца, мітусіцца, выглядае, як верабей, які ў гарачы летні дзень трапечацца ў пяску. Здавалася б, такі паэтычны мантаж, спалучэнне гэтых двух пластоў жыцця несумяшчальныя. Зося як увасабленне маральных пачаткаў і верабей. Занадта эстэтычна розныя гэта з'явы, але для Міцкевіча — гэта рэчы аднаго эстэтычнага плана. Такое ўжо яго тут светаадчуванне, такая паэтычная сістэма. Зноў і зноў у паэме воб-разная структура творчасці такім вось мастацкім мантажом.

У той жа сцэне, дзе граф упершыню бачыць Зосю, яна выглядае, як квахтуха з куранятамі ў часіну небяспекі. Граф з'яўляецца нечакана — дзеці палохаюцца, кідаюцца да яе. І яна — нібы квахтуха, пад якую збягаюцца кураняты. Зноў жа, нібы не на карысць любімай паэту гераіні такі эстэтычны мантаж. Але ў творы — гэта арганічны рад: куры, гусі, Зося, дзеці. Зося спушчана на зямлю, у побыт. І далей. Калі яна дзяцей праводзіць, яна выходзіць з агародчыка і вядзе чародку малых. Граф уяўляе, збоку гледзячы, нібы яна выходзіць заганяць чародку гусей. Ужо гусямі яны выглядаюць: Зося гоніць гусей.

**— Сапраўды, вельмі незвычайныя параўнанні як на шляхецкі твор...**

— У канцы паэмы дапісваецца лёс Тадэвуша і Зосі, якія ствараюць сям'ю і ў планах якіх — вярнуцца да свайго народнага асяроддзя і вызваліць сялян ад прыгону. Тут я не бачу не толькі нейкага высокага ідэйнага, нейкага палітычнага акта, а гэта — паводле эстэтычнай сістэмы твора — і натуральна, і лагічна.

Урэшце, у канцы, пасля балю, калі Зося і Тадэвуш застаюцца адны, яны глядзяць на неба. Аўтар нарэшце паварочвае сваіх герояў да той вышыні, да вечнасці, якая заўсёды чакае чалавека ў жыцці. Чакае і гэтых маладых людзей, перад якімі зараз раскрыты свет. І што ж яны бачаць на небе? Яны бачаць воблачкі, якія нагадваюць чародку авечак, што леглі спаць, нагадваюць качак, яшчэ нагадваюць коз, а таксама грэчку, якая цвіце.

**— А ці нельга гэта ўсё лічыць данінай рамантычным схільнасцям Адама Міцкевіча?**

— Прырода гэтых назіранняў далёкая ад рамантычнасці. Авечкі, качкі, козы — прадметна-бытавы пласт сялянскага жыцця, і з пункту гледжання традыцыйнай рамантыкі нават не столькі звычайны, колькі нізкі ўзровень эстэтычнага. Ды і грэчка, хаця і ў квецені, — часцінка поля, на якім практычна працуе земляроб. Тут тая ж заземленасць адлюстравання, тая ж традыцыя павароту да празаічнага, у якім Міцкевіч адкрывае высокае, паэтычнае.

Ці будзем лічыць гэты напрамак у паэме рэалістычным? Можа гэта занадта катэгарычна сказана. Гэта яшчэ Міцкевіч, і гэта яшчэ не рэалізм — 30-я гады ў літаратуры Беларусі таго часу. Справа нат не ў тэрміне. (Ёсць яшчэ тэрмін этнаграфічны рамантызм, які эксплуатаваўся шырока, але які таксама не мае свае дакладнасці.)

Так ці інакш для нас важны гэты зрух, паварот літаратуры, і незалежна ад таго, на якой мове яна тварылася. Зрэшты, у тагачаснай літаратуры на беларускай мове такі паварот рабіўся вельмі крута, а на польскай — больш павольна, але ён адбываўся.

**— З якім беларускамоўным творам наогул трэба супаставіць «Пана Тадэвуша»?**

— Калі мы паставім «Пана Тадэвуша» ў адзін генетычны рад з беларускім нацыянальным паэтычным эпасам, то гэта будзе «Новая зямля» Якуба Коласа, якая пісалася ў пачатку XX стагоддзя. Тут класічна ўвасоблена беларускае народнае, практычна-бытавое светаадчуванне. Прыглядзеўшыся да Міцкевіча, мы ўбачым, што гэта ўжо было закладзена ў паэме «Пан Тадэвуш», гэтыя ўсе асновы ўжо там ёсць. Не выпадкова, калі Браніслаў Тарашкевіч перакладаў на беларускую мову «Пана Тадэвуша», ён так смела карыстаўся дыялектызмамі. Здавалася б, яны супрацьпаказальныя такой эпапеі, як «Пан Тадэвуш». Але Тарашкевіч з яго высокай філалагічнай культурай, з яго тонкім чуццём слова разумеў магчымасць уключэння ў кантэкст, у стылістыку гэтай паэмы менавіта такіх лексічных, граматычных і нават фанетычных дыялектызмаў з беларускага моўнага арэала.

**— Але і сам Міцкевіч выкарыстоўваў словы з навагарадскай гаворкі.**

— Вельмі слушнае ўдакладненне. У гэтай сувязі нельга абмінуць перш за ўсё смелае выкарыстанне Адамам Міцкевічам геаграфічных назваў Навагарадчыны. У паэме многа рэальных мясцін. Гэта таксама паварот да аўтэнтычнасці, да звычайнага жыцця, да рэальнасці. Тая ж паэтычная задача вядзе аўтара да роднага Нёмана, які шмат разоў увасабляецца як вобраз, хаця геаграфічна дзеянне твора не «прывязана» да гэтай ракі. І выкарыстанне беларускай лексікі, пераважна этнонімаў, дыктуецца той жа задачай — ушчыльную падысці да мясцовага жыцця з яго рэгіянальнымі асаблівасцямі. Паводле маіх падлікаў у паэме «Пан Тадэвуш» больш за 30 беларускіх слоў, ёсць і беларусізмы на польскі лад.

Характэрная, у рэшце рэшт, і свабодная, адкрытая такая натуральная сістэма апавядальнай інтанацыі гэтай паэмы. А таксама пэўная фальклорная ўмоўнасць інтрыгі ў сюжэце твора, якая так адпавядала неабходнасці звесці дзеянне да аўтэнтыкі народнага жыцця. Не выпадкова канцоўка твора вытрымана цалкам у стылі той традыцыйнай формулы, якую выкарыстоўваў у беларускіх народных казках сам апавядальнік. Гэта таксама частка эстэтыкі і стылістыкі гэтай паэмы, якая засведчыла паварот ад рамантычнага да, скажам так, звычайнага, будзённага жыцця, з усімі яго рэаліямі, урэшце — паварот да беларускага слова, якое было неад'емнай часцінкай гэтай рэальнасці.

**З Аляксеем ПЯТКЕВІЧАМ, прафесарам Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, гутарыў Здзіслаў СІЦЬКО.**

***МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА «БЕЛАРУСКІЯ ІМЁНЫ»***

***Сымон БАРЫС***

## *Як у нас клічуць?*

### Мужчынскія імёны

*(Працяг.)*

**Рафал.** Рафаил (яўр.) — Бог вылечыў. Разм. Рахвал. Вытв. Рафалік, Рафалка, Рафік, Рафуня, Раф, Рафа. Імяніны: пр. 21.11; кат. 24.01; 24.10. Імя па бацьку — Рафалавіч, Рафалаўна.

**Рамальд.** Рамуальд (са стараням. ад слоў: слава і панаваць). Імяніны 7.02; 19.06; 9.08. Імя па бацьку — Рамальдавіч, Рамальдаўна.

**Роберт.** Роберт (стараням. ад слоў: слава і велічнасць). Імяніны 17, 29.04: 13.05; 7.06; 17.08; 17.09. Імя па бацьку — Робертавіч, Робертаўна.

**Рудоль.** Рудольф (са стараням. ад слоў: слава і воўк). Імяніны: кат. 17.04. Імя па бацьку — Рудолевіч, Рудолеўна.

**Рурык.** Рюрик (са сканд.). Імя па бацьку — Рурыкавіч, Рурыкаўна.

**Руслан.** Руслан (слав.). Вытв. Русік, Русцік, Русак, Рустым, Русук, Русьцісь, Рус. Імя па бацьку — Русланавіч, Русланаўна.

**Рыгор.** Грынь, Григорий (грэч.) — пільны. Разм. Грыгор. Вытв. Рыгорка, Рыгорык, Рыгарэц, Грыголь, Грыся, Грышан, Грышка, Грышук, Грышуня, Грышута, Грыня, Грынёк, Грынька, Грынько, Грыц, Грыцка; Гоша (ад Рыгоша), Гошанька, Гошка, Гошачка, Грысь, Рыгук, Рыгась. Імяніны: пр. 1, 21, 23.01; 7, 12.02; 17, 25.03; 28.06; 21.08; 10, 12.09; 11, 13, 18.10; 18, 27, 30.11; 3, 6, 11.12; кат. 4, 10.01; 13.02; 12.03; 24.04; 25.05; 17, 28.11; 10.12. Імя па бацьку — Рыгоравіч, Рыгораўна і Грыневіч, Грынеўна.

**Рысь.** Рышка. Ричард (англ. са стараням. ад слоў: багаты і дужы). Імяніны: кат. 7.02; 3.04. Імя па бацьку — Рысевіч, Рысеўна і Рышкавіч, Рышкаўна.

**Сабеслаў.** Себеслав (слав.) — той, хто дабывае сабе славу. Вытв.: Сабік, Славік. Імяніны: кат. 20.08. Імя па бацьку — Сабеславіч, Сабеслаўна і Сабеслававіч, Сабеславаўна.

**Сабасцей.** Сева. Севастиан (грэч.) — шаноўны, свяшчэнны. Вытв.: Сеўка, Сабоста, Сабук, Саба, Сабасцей. Імяніны: пр. 11.03; 2.04; 5.06; 31.12; кат. 20.01. Імя па бацьку — Сабасцеевіч, Сабасцееўна і Севавіч, Севаўна.

**Сава.** Савва (яўр.) — віно. Вытв.: Савачка, Саванька, Саўка. Імяніны: 25.01; 1, 21.02; 7.05; 26.06; 6, 28.07; 6, 9.08; 9, 10, 12.09; 11, 14.10; 16, 18.12. Імя па бацьку — Савіч, Савічна.

**Савель.** Савелий, Савел (яўр.) — выпрашаны ў Бога. Вытв.: Саўка, Саўлук, Савелька. Імяніны 30.06. Імя па бацьку — Савелевіч, Савелеўна.

**Сазон.** Сазонт. Імяніны пр. 20.09. Імя па бацьку — Сазонавіч, Сазонаўна.

**Саламон.** Соломон (яўр.) — мірны. Вытв. Салоха. Імя па бацьку — Саламонавіч, Саламонаўна.

**Сакрат.** Сакрат (грэч.) — які захоўвае ўладу. Імя па бацьку — Сакратавіч, Сакратаўна.

## УДАКЛАДНЕННЕ

У нумары 48 у артыкуле «Транслітарацыя, але якая?» дапушчана недакладнасць у напісанні слоў: Snow, Moscow, of, Country. Просім прабачэння ў аўтара.

СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ

# Падтрымліваю

Ідэя калектыўнага стварэння Гімна добрая. Што да музыкі, то я не згодзен з тымі апанентамі, якія наогул адмаўляюць мелодыю кампазітара Сакалоўскага (нібыта «пры выкананні новага Гімна са старой мелодыяй будуць ужываць не новыя, а старыя словы!»). Народ наш практычна не помніць тэкст М.Клімковіча, бо ў «застойныя» часы наменклатурная «вярхушка» не вельмі клапацілася пра веданне народам свайго нацыянальнага Гімна, бо сама цуралася беларускай мовы. Ды нават новы варыянт Дзяржаўнага Гімна СССР ёй наўрад ці даваўся на памяць. «Союз нерушимый...» застаўлялі вучыць толькі ў школах. Я думаю (калі няма лепшага!) музыка Сакалоўскага прымальная па гэтым часе.

**Віталь ГАРАНОВІЧ**.
г.Глыбокае.

# З верай і надзеяй на добрае

Пакуль у вярхах думаюць, які Гімн даць беларусам, у «нізах» ствараюць яго самастойна. У нас у Валожынскім раёне, прыкладам, калектывы мастацкай самадзейнасці з ахвотай бяруць і співаюць мой тэкст. Няхай ён не стане Гімнам, не бяда, але ўсё роўна застанецца як патрыятычная песня эпохі беларускага Адраджэння на ўсім вядомую мелодыю. А гімнавая музыка Сакалоўскага — сапраўды «мэлёдыя магутнасьці», ужываючы рэкламную фразу. Думаю, што ў гэтым будзе і перавага тэксту, пакладзенага на яе. Слухачам жа сёння патрэбна бадзёрая гімнавая нацыянальная песня, і ўдзельнікі самадзейных хораў гэта імкнуцца ўлічваць.

**Мікалай КУКСО,**
**настаўнік гісторыі Івянецкага дзіцячага дома-інтэрната.**

***Ад рэдакцыі.*** *Варыянт шаноўнага спадара Куксо мы заўважылі апублікаваным у валожынскай раённай газеце, і ён улічаны ў канчатковым гімнавым тэксце. Тут прывядзём толькі прыпеў:*

*Доўга блукалі ў пошуках волі,*
*Многа сустрэлі цяжкіх дарог.*
*Зведалі гора і здзеку даволі,*
*Ды не скарыўся, выжыў народ!*

*З гэтымі словамі мы і віншуем усіх чытачоў газеты з Новым годам. Спадзяёмся, што мы і надалей будзем разам. Дабра вам, сябры, цяпла, здароўя і бадзёрага настрою!*

* * *

На гэтым завяршаем калектыўную працу нашых чытачоў. Дзякуем за ўдзел у стварэнні Гімна Беларусі Уладзіславу Жыгалку (Менск), Міхасю Маліноўскаму (Баранавічы), Янку Насуту (Гародня), Клаўдзіі Давідзюк, Івану Жытко (Камянец), Васілю Гусціновічу, Міколу Валошчыку (Белаазёрск), Восіпу Рагоньку, Міколу Хамчуку (Менск), К.Міхайлаву (Орша), Валерыю Тарыкаву (Глыбокае), Міколу Буслу (в.Дуброва), Міколу Грышану, А.Сайкоўскай (Бабруйск), Браніславу Пяткевічу, М.Шведзюку (Рэгбі, Англія), Мікалаю Наско, Віктару Цыбульку (Менск), Ніне Шаблыка (в.Кублічы, Ушаччына), Пятро Піліповічу (в.Чамярын), Эміліі Міхалап (Менск), Віталю Макарчыку (Навагрудак), Анатолю Бобрыку, Аляксандру Мазуру (в.Дуброва, Светлагоршчына), Івану Емяльянаву (г.п.Сураж, Віцебшчына), Э.Гозіку (Калінкавічы), Івану Басецкаму (Менск), Віктару Голубу (в.Пад'ясенка, Бабруйшчына), Васілю Якуніну (Слуцк), П.Зіміч (в.Кажан-Гарадок, Лунінецкі раён), Цімоху Вострыкаву (Гомель), Я.Талпыгу (Гродна), Алесю Крэменю (г.Скідаль), Таццяне Сісновіч (Віцебск), Алене Дзядавай (Навагрудак), Мікалаю Маўчану, У.Сухараву (п.Чырвоны Бераг, Жлобінскі раён), Анатолю Ляху, Вітаўту Мартыненку (Менск), Вользе Новік (г.Лунінец), Алесю Шадрыну (Менск), Георгію Шундрыку (г.Дзятлава), Мікалаю Куксо (Івянец), Віталю Гарановічу (Глыбокае), М.Любецкаму (в.Навасёлкі, Мінская вобл.), Ільі Сяляўцы (Вілейскі р-н), А.Драянкову (Масква, Расія), Э.Мароз (г.Дзісна), Уладзіміру Мельніку і іншым.

А цяпер друкуем канчатковы варыянт Гімна Беларусі, створанага нашымі чытачамі.

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Музыка Н.Сакалоўскага.*
*Словы народныя.*

**Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**Нас акрыляе сімвал Радзімы**
**Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**

**Разам ніколі мы не загінем,**
**З Богам сустрэнем шчасця зару.**
**Наша адданасць — вольнай Радзіме.**
**Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**Дружная праца нас узмацняе,**
**Годнасць гартуе з году у год.**
**Веліч Радзімы — мужнасць народа.**
**Мы, беларусы, — слаўны народ.**

**Разам ніколі мы не загінем,**
**З Богам сустрэнем шчасця зару.**
**Наша адданасць — вольнай Радзіме.**
**Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**Рэкі, азёры чыстыя тут.**
**Мірна гамоняць бярозы ды сосны.**
**Слаўце, нашчадкі, родны наш кут!**

**Разам ніколі мы не загінем,**
**З Богам сустрэнем шчасця зару.**
**Наша адданасць — вольнай Радзіме.**
**Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

*(Друкуецца адзін з канчатковых варыянтаў.)*

Вечарыны

***Пад такой назвай у канферэнц-зале Маладзечанскай бібліятэкі імя М.Багдановіча адбылася вечарына-ўспамін, прысвечаная светлай памяці нашага выдатнага земляка Генадзя Каханоўскага.***

# «Ён свету родны край адкрыў...»

Перад партрэтам гэтага руплівага адраджэнца дрыготка гарыць свечка, чуюцца пералівы цымбал. Гучыць верш Івана Чыгрына «Гімн Бацькаўшчыне».

Вельмі цяжка гаварыць пра Генадзя Аляксандравіча ў мінулым часе. Ён жывы, ён сярод нас. Аб гэтым сведчаць яго шматлікія кнігі, па якіх адкрываюць для сябе гісторыю нашай зямлі новыя пакаленні беларусаў.

На вечарыне прысутнічалі родныя і блізкія Генадзя Аляксандравіча — Зінаіда Пятроўна Каханоўская, надзейны сябар і жонка. Яна падзялілася ўсе трывогі нялёгкага лёсу мужа. Сын, кандыдат гістарычных навук, пераемнік бацькавай справы Аляксандр Генадзьевіч выступіў з успамінамі. Шмат павагі і пашаны ў адрас свайго былога блізкага сябра выказаў пісьменнік і навуковец, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К.Каліноўскага, ганаровы грамадзянін Маладзечна Мікола Іванавіч Ермаловіч.

Намеснік дырэктара Мінскага абласнога краязнаўчага музея Таіса Лянкевіч пазнаёміла прысутных з некаторымі гістарычнымі матэрыяламі і экспанатамі з фондаў музея, сабраных самім Генадзем Аляксандравічам.

З цёплымі словамі аб Генадзю Аляксандравічу выступілі супрацоўнік Цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў Міхась Казлоўскі, настаўніца беларускай мовы і літаратуры школы-гімназіі Вера Дворак, былы настаўнік беларускай мовы і літаратуры Аляхновіцкай школы, перакладчык з польскай мовы, дарэчы, сусед Генадзя Аляксандравіча, Яраслаў Касцюк, члены Саюза мастакоў Беларусі Кастусь Карашэвіч і Юрый Герасіменка — ілюстратар усіх кніг Генадзя Аляксандравіча.

Супрацоўніца бібліятэкі Марына Кароль зрабіла бібліяграфічны агляд друкаваных твораў Генадзя Аляксандравіча і літаратуры аб ім. Выкладчыкі музычнай школы Людміла Грэмілава, Вольга Красельская, Гаянэ Хачатурава выканалі папулярныя класічныя творы Гендэля і Фібіха.

Нястомны пошук, выключная працавітасць Генадзя Каханоўскага — сапраўднага беларускага інтэлігента, таленавітага пісьменніка, апантанага даследчыка, цудоўнага знаўцу нашай даўніны — яскравы прыклад высокага патрыятызму, самаадданага і самаахвярнага служэння свайму народу, вялікай любові да роднага Краю.

**Таіса ТРАФІМАВА**.
г.Маладзечна.

## Традыцыі і сучаснасць



**Фота Белінфарма**.

ЧЫТАЛІ?

# У скарбонку ваенна-гістарычнай літаратуры

***Можна па заслугах занесці кнігу Міхася Грыгор'ева «Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі (1765—1794)» (выдавец З.Саломкін, Менск, 1994), хоць сённяшні чытач ужо ў некаторай ступені насыціўся гістарычнай літаратурай. Але ж тут меркаванне датычыцца пераважна кніжак і публікацый папулярных, у першую чаргу — гісторыка-публіцыстычных. Не стае ж літаратуры грунтоўнай, фактаграфічнай, аўтары якой бяруць на свае плечы адказнасць за шматграннае асвятленне (на мяжы з энцыклапедычнай паўнатой!) тае ці іншае тэмы.***

І асабліва мала падобнай літаратуры ў нас на вайсковую тэму. Як, дарэчы, па блізкіх гістарычных перыядах, так і па сівой мінуўшчыне. Таму сапраўдным адкрыццём стала гэта кніга М.Грыгор'ева.

Змест даследавання раскрываюць ужо назвы асобных раздзелаў: «Развіццё вайсковай справы ў Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII стагоддзя», «Мундзір і амуніцыя кавалерыі, пяхоты і артылерыі войска ВКЛ у другой палове XVIII ст. і пад час паўстання 1794 г.», «Узбраенне кавалерыі войска ВКЛ», «Узбраенне пяхоты войска ВКЛ», «Узбраенне артылерыі войска ВКЛ», «Баявыя дзеянні рэгулярных вайсковых часцей і паўстанцкіх аддзелаў ВКЛ пад час паўстання 1794 г.». Асноўны змест істотна дапаўняюць «Прыблізны сьпіс паўстанцкіх аддзелаў ВКЛ», «Рэканструкцыі мундзіраў і амуніцый», «Партрэты» і «Слоўнік адмысловых тэрмінаў».

Аналагаў згаданаму даследаванню на Беларусі пакуль што няма. Магчыма, з цягам часу ў сціплы атрад імёнаў беларускіх ваенных гісторыкаў увальецца яшчэ больш руплівае і энергічнае маладое племя. Магчыма, стаўшы цывілізаванай дзяржавай, мы займеем падручнік па вайсковай гісторыі Беларусі. Магчыма, што ўсё гэта яшчэ ў нас будзе. Сёння ж важна не прапусціць напрацаванага, даследаванага.

Але чаму аўтар абраў менавіта такія — «ад Сасаў да Касьцюшкі» — храналагічныя межы? Справа ў тым, што ў 1765 г. пачала дзейнасць Камісія вайсковая ВКЛ. Менавіта яна мела на мэце сур'ёзны клопат аб рэфармаванні тагачаснага войска. Нагадаем, што тады на прастол Рэчы Паспалітай быў узведзены Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Рухавікам яго, так бы мовіць, кар'еры стала «фамілія» — партыя, якую ўзначальвалі магнаты Чартарыйскія. Апошнія добра ўсведамлялі: дзяржаўны занепад Рэчы Паспалітай можа скончыцца катастрофай.

Сцісла падаўшы характарыстыку тагачаснай грамадска-палітычнай сітуацыі ў Рэчы Паспалітай і, у прыватнасці, у ВКЛ, даследчык падрабязна спыняецца на ваенных рэформах.

Што ж папярэднічала своеасабліваму вайсковаму ўздыму ў другой палове XVIII стагоддзя? Пад час каралёў Аўгуста II і Аўгуста III былі створаны нешматлікія пяхотныя палкі ў Кароне і на Літве. Усе яны мелі характар кадравых часцей, заўважае М.Грыгор'еў, са шматлікімі афіцэрскімі кадрамі — добра аплачваемымі і дрэнна абучанымі і мінімальнай колькасцю абучаных жаўнераў.

Афіцэрскія пасады набываліся за грошы, і ў асобных палках колькасць афіцэраў ледзьве не перавышала колькасць шэраговых жаўнераў. Уся сістэма кіравання, арганізацыі і забеспячэння войска адпавядала стану дзяржаўнай і палітычнай анархіі, якая панавала ў краі з канца XVII ст.

Вайсковая ж Камісія (па сённяшнім часе як можна параўнаць з адпаведнай парламенцкай камісіяй) займалася разнастайнымі вайсковымі пытаннямі, акрамя надання афіцэрскай годнасці і непасрэднага кіравання войскам пад час вайны. У абсяг клопатаў камісіі уваходзілі: пытанні забеспячэння і ўзбраення войска, кантроль за фінансамі ў войску, «муштра» — абучэнне жаўнераў, іх дысцыпліна, дыслакацыя асобных часцей, Вайсковы суд. Дарэчы, у Вялікім Княстве Літоўскім дзейнічала асобная Камісія вайсковая (пачала сваю дзейнасць у Гародні з 24 лютага 1765 года). На чале яе знаходзіўся прэзідэнт, граф Міхал Агінскі.

Аўтар падрабязна раскрывае сутнасць тагачасных вайсковых рэформ, падкрэсліве залежнасць іх поспеху ад фінансавання.

Безумоўна, з неасабнай увагай чытаюцца ўсе раздзелы кнігі. У іх — падрабязнае апісанне мундзіраў, амуніцыі і ўзбраення розных родаў войска. Але ж не толькі з формай ды зброяй пазнаёміцца тут чытач. М.Грыгор'еў распавядае і пра арганізацыю войска, расказвае пра тагачасныя статутныя патрабаванні. У агульнай карціне вымалёўваецца і парадак навучання.

Асабліва ўражвае апошні раздзел — «Баявыя дзеянні рэгулярных вайсковых часцяк і паўстанцкіх аддзелаў Вялікага Княства Літоўскага пад час паўстання 1794 г.». Падаючы агульную карціну падзей, аўтар змог спыніцца і на раздзеле тактычных пытанняў. Гэта, дарэчы, вельмі важна з пункту гледжання вывучэння гісторыі ваеннага мастэрства.

Кніга унікальная таксама і багата падабраным ілюстрацыйным матэрыялам. Сапраўдны альбом вайсковай формы! Ды яшчэ з падрабязным дэталёвым апісаннем.

І ўсё ж напрыканцы размовы хочацца заўважыць: чаму не пададзены спіс выкарыстанай літаратуры, чаму няма спасылак на архіўныя крыніцы? І чаму такі малы наклад выдання — усяго 3000 паасобнікаў?

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**.

## З КАЛЯДАМІ!



# Святочны ліст да Цябе

*...душа у кожнага — раяль...*
*крані яго рукой ласкавай —*
*і задумённа, і яскрава*
*ён заіскрыцца, як крышталь...*

**Зьніч.**

Даруй, што пішу табе. Даруй, што не пісала... Хутка свята — некалі самае любімае маё свята — Новы год. І хаця я не чакаю яго так, як у дзяцінстве, ці нават так, як у мінулым годзе, — мне вельмі хочацца павіншаваць цябе.

Сёння, калі я ішла па вуліцы, мне прыгадалася прамінулая зіма, «нашых стрэч цяпло». Мінулагодні снег... ён падаў ціха-ціха, святочна-ўрачыста. Ад тваіх прызнанняў кружылася галава і так хацелася жыць! Твае вершы не чыталіся — спяваліся мною. Так, я жыла «...між зямлі і нябёсаў»:

*Як сонца ў небе, і як месяц, і як зорка,*
*Як тыя сны, што бачыў наяву,*
*Як летні дзень, калі на сэрцы золка,*
*Табой я мару і табой жыву.*
*Цябе прыдумаў светлай і прыгожай.*
*Цябе убачыў — ты такой была...*

Ведаеш, якая магутная сіла слова, нават самага маленькага слова! Твае словы растапілі маё заледзянелае сэрца, і я ажыла зноў: я ўбачыла ўсе колеры жыцця (а не толькі шэрыя), я пачула ўсе гукі жыцця (і не толькі тужлівыя). Я пацягнулася да цябе, як цягнецца вясною былінка да сонца, але, мусіць, не разлічыла крыху — згарэла...

Зноў ёлка ў маім пакоі, у самотнай цішыні патрэскваюць свечкі, і ўсё яшчэ «на сэрцы так балюча». Якое сумнае пачуццё... А сёння свята.

*Даруй, як што не так у гэтым годзе*
*У нас было ці лепей быць магло.*

Віншую цябе. Няхай гэты снег не нагадае табе мінулагоднюю шчаслівую завею. Тваёй жывой душы верыць і кахаць. Шчасця табе і свята!

**А.**

# Пачутае «У Лявона»

* * *

Падарожнік пад'язджае позна ноччу да маленькай гасцініцы.

— Прабачце, — звяртаецца ён да чалавека, які стаіць ля пад'езда, — як вы думаеце, тут можна выспацца?

— Думаю, што можна. Я ўжо гадзіны паўтары грукаю ў дзверы, і ніхто яшчэ не прачнуўся.

* * *

Жонка будзіць Міколу:

— Уставай, стары, пеўні ўжо крычаць!

— Не трэба нам у гэту справу ўмешвацца, — прабурчаў Мікола і перавярнуўся на другі бок.

* * *

Марак, выкінуты на бязлюдную выспу, злавіў папугая і навучыў яго гаварыць. Аднойчы вечарам папугай прыляцеў да свайго гаспадара вельмі ўсхваляваны.

— Там жанчына, — крыкнуў ён, — і такая цудоўная!

Марак кінуўся за папугаем, які ляцеў і крычаў:

— Якія вочы! А якая фігура!

Нарэшце папугай сеў на галіну і паказаў дзюбай.

— Вось яна, бос!

— Ах ты, шэльма, — вылаяўся марак. — Дык гэта ж папугаіха!

* * *

Замежны турыст у Менску звяртаецца да маладой жанчыны:

— Вы не маглі б размяняць мне сто долараў?

— Не, але дзякую за камплімент.

* * *

— Чым закончылася твая ўчарашняя сварка з жонкай?

— Яна прыпаўзла да мяне на каленях.

— І што яна сказала?

— «Вылазь з-пад ложка, подлы трус...»




### Д.ДЖАРВІС: Народная медыцына і напіткі

**Лячэнне хранічнага алкагалізму.** П'янаму да непрытомнасці чалавеку на працягу 40 мінут даюць прыняць 18 чайных лыжак мёду (дозамі па 6 чайных лыжак з інтэрвалам у 20 мінут). Затым яшчэ тройчы праз кожныя 20 мінут паўтараюць лячэнне — доза тая ж самая. На другі дзень да снедання пацыент атрымлівае яшчэ тры дозы мёду з інтэрвалам у 20 мінут; перад снеданнем атрымлівае 4 чайныя лыжкі і на дэсерт таксама 4 чайныя лыжкі. Заўважана, што пасля такога лячэння схільны да алкаголю чалавек больш ніколі не стане ўжываць спіртное.

Народная медыцына лічыць, што нясцерпнае жаданне выпіць звязана з недахопам калію ў арганізме. Мёд як выдатная крыніца калію значна памяншае цягу людзей да спіртнога і паспяхова служыць сродкам працверажэння. Доктар Джарвіс даследаваў рэакцыю алкагольных напіткаў на лакмусавай паперы і атрымаў наступныя вынікі:

| напітак | рэакцыя |
|---|---|
| віскі | слабакіслая |
| ром | кіслая |
| піва | моцнакіслая |
| партвейн | моцнакіслая |
| вермут | моцнакіслая |
| лікёр | слабакіслая |
| джын | слабакіслая |
| мінеральная вада | слабашчолачная |

Калі прыгадаць інстынктыўную патрэбу людзей і хатніх жывёл у кіслаце, то можна зразумець, прыкладам, рабочага, які пасля напружанага працоўнага дня выпівае бутэльку піва, што мае вельмі кіслую рэакцыю, ці жаданне чалавека разумовай працы выпіць перад вячэрай кактэйль. З усіх алкагольных напіткаў віно і піва маюць найбольш кіслую рэакцыю.

Як высветліў доктар Джарвіс доследным шляхам, найбольш спрыяльным асяроддзем для росту шкодных для арганізма бактэрый з'яўляецца шчолачнае асяроддзе. Стэфілакокі, стрэптакокі, пнеўмакокі, менінгакокі, ганакокі і іншыя патагенныя бактэрыі бурна развіваюцца менавіта ў шчолачным асяродку. Гэтыя дадзеныя ўяўляюць цікавасць у сувязі з патрэбай арганізма чалавека і жывёл у кіслаце. Прырода яе раскідала шчодрай рукой у розных раслінах. Ахоўная рэакцыя арганізма выяўляецца ў патрэбе кіслых напіткаў і раслiннай ежы.

Чытачам, якія ў 1993 годзе не з'яўляліся падпісчыкамі нашай газеты, прыводзім рэцэпт прыгатавання яблычнага воцату. Яблычны воцат прыгатоўваецца з яблычнага, грушавага і айвовага сокаў, а таксама з напітку, вядомага пад назвай сідр. Можна прыгатаваць воцат непасрэдна з яблык наступным чынам.

Фрукты мыюць, выдаляюць гнілыя і чарвівыя часткі, затым труць на буйной (бурачнай) тарцы разам з зярняткамі і сярэдзінкай. Сырую яблычную кашу кладуць у пасудзіну: шкляны слоік, драўляную бочачку, эмаліраваную каструлю або гліняны эмаліраваны чыгунок. Заліваюць цеплаватай кіпячонай вадой (на 0,4 кг яблычнай кашы — 0,5 л вады, або на 4 кг яблычнай кашы — 5 л вады). На кожны літр вады бяруць 100 г цукру або мёду, 10 г хлебных дрожджэй, 20 г сухога чорнага (жытняга) хлеба.

Посуд з сумессю трымаюць адкрытым (дзеля кантакту з паветрам) у цёмным месцы (браджэнню шкодзяць сонечныя ультрафіялетавыя промні), пры тэмпературы паветра 20–30°С. Змесціва перамешваюць 2—3 разы на дзень драўлянай лыжкаю, а праз 10 дзён выціскаюць праз марлю. Сок, які атрымаўся, яшчэ раз працэджваюць праз марлю і пераліваюць у пасудзіну з шырокім горлам. Варта дабавіць да кожнага літра соку па 50—100 г цукру або мёду і добра размяшаць. Для правядзення далейшай ферментацыі горла пасудзіны завязваюць марляй і ставяць у цяпло. Браджэнне працягваецца. Калі вадкасць супакоіцца і асвятліцца, то можна лічыць, што браджэнне скончылася. У залежнасці ад якасці соку, калі вытрыманы ўсе патрабаванні да яго прыгатавання, яблычны воцат будзе гатовы праз 40—60 дзён. Яго пераліваюць у бутэлькі, фільтруючы праз лейку з марляй. Бутэлькі шчыльна затыкаюць коркамі, закупорваюць воскам і ставяць у халоднае месца.

Яблычны воцат прыемны на смак. Ужываецца ў якасці прыправы да салатаў і іншых страў. У адпаведнасці з рэкамендацыямі доктара Д.Джарвіса яблычны воцат можна ўжываць і як дыетычны харчовы прадукт, і як тэрапеўтычны сродак пры розных захворваннях.

На гэтым «Народная лякарня» завяршае знаёмства з парадамі амерыканскага ўрача Д.Джарвіса, які аддае перавагу народным спосабам лячэння, а з лекавых сродкаў вылучае мёд, мядовыя соты, яблычны воцат, марскія водарасці, рыцыну і кукурузны алей.

## Афарызмы

### Мілаван ВІТЭЗАВІЧ

✧ Малады Маркс адпускаў бараду старога Маркса.

✧ Марксізму зноў найбольш у бібліятэках!

✧ Каб не быў атэістам, Маркс бы ў магіле перавярнуўся.

✧ Маркс прадбачыў страўнік, але ж не такі!

✧ Вы што, з Маркса ўпалі?

✧ Стаўшы атэістамі, тыя, што калісьці хапалі Бога за бараду, узяліся за бараду Марксаву.

✧ Марксіст-цырульнік марыў, каб Маркс апынуўся ў ягоным крэсле.

✧ Ішлі ўслед за Марксам. А калі дагналі, інтэрніравалі яго!

✧ Вяршыня Марксавага матэрыялізму — у тым, як ён духоўнае паняцце цынізму матэрыялізаваў: «Цынізм хаваецца ў рэчах, а не ў словах, якія рэчы азначаюць!»

✧ Маркс над Гегелем здзейсніў дыктатуру пралетарыяту.

✧ Значок Маркса — татэм атэіста.

**Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:

Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе *і назад* не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 52

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Наклад 7230 паасобнікаў.

Падпісана ў друк 26.12.1994 г. у 15 гадзін.